ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# НАПАГАТОВЕ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ВАЕННА-АБАРОНЧАЯ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ ЧАСОПІСЬ— ОРГАН АРГКАМІТЭТУ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
Л. АРАНШТАМА (адказны рэдактар),
АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА,
Л. БЭНДЭ (намесьнік рэдактара),
Ф. ГОЛЬДМАНА,
К. КРАПІВЫ
і В. ШАПАВАЛАВА



## № 2-3

ЛЮТЫ—САКАВІК
1933




ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК—1933

# ЗЬМЕСТ



## Клубам и эстрадам



## Крытыка і публіцыстыка



## Бібліяграфія

К. Е. ВАРАШЫЛАЎ

# ПЯЦІГОДКА ЎМАЦАВАЛА АБАРОНУ СССР[1])

Чырвоная армія разьвівалася і расла разам з ростам пралетарскай дзяржавы, не адстаючы ад узроўню разьвіцьця прадукцыйных сіл краіны і яе тэхнікі. Інакш і не магло быць. Наша армія існуе для абароны сацыялістычнай бацькаўшчыны. Наша дзяржава, абкружаная варожым колам імпэрыялістаў, ня зможа існаваць ніводнага дня без сваёй добра ўзброенай і моцнай ва ўсіх адносінах арміі. З гэтай прычыны наша партыя, яе ЦК, наш правадыр т. Сталін заўсёды ўдзялялі і ўдзяляюць вялікую ўвагу Чырвонай арміі. Вось чаму ў пяцігадовым пляне не маглі не знайсьці і знайшлі адлюстраваньне інтарэсы абароны Савецкай дзяржавы.

На працягу ўсіх год нашага з вамі існаваньня мы стараліся як мага лепш выконваць ускладзеныя на нас адказныя задачы. Мы заўсёды заяўлялі нашай партыі, рабочай клясе і працоўнаму сялянству, што мы, Чырвоная армія, выканаем свой абавязак, што мы, ні пры якіх умовах не дапусьцім клясавых ворагаў парушыць недатыкальнасьць савецкіх граніц. Гэтыя заявы былі абсалютна праўдзівымі. Наша Чырвоная армія, клясавая армія рабочых і сялян, заўсёды была моцнай сваім выключным палітычна-маральным станам, сваім духам, сваёй высокай рэвалюцыйнай сьвядомасьцю. Але ўсе мы адчувалі і асабліва тыя з нас, што сядзелі наверсе ў кіраўніцтве, што за гэтым духам была вельмі слабая, кажучы фігуральна, матэрыя. Старая армія, ад якой насьледвала сваё ўзбраеньне Чырвоная армія, была самай адсталай арміяй у Эўропе.

У час грамадзянскай вайны тэхніка Чырвонай арміі паляпшалася толькі за кошт таго ўзбраеньня, якое адбіралася ў бай ў белагвардзейцаў і замежных інтэрвэнтаў. У гады пасьля грамадзянскай вайны, у аднаўленчы пэрыяд узбраеньне Чырвонай арміі амаль не зьмянілася. Гэта тлу-

---

[1]) З дакладу аб выніках студзеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК ЎсеКП(б) на сходзе партактыву Маскоўскага гарнізону 20 студзеня 1933 г.

мачылася, па-першае, тым што ў краіне яшчэ ня была створана прамысловая база, здольная вырашыць гэтае вялізнае пытаньне, а, па-другое, тым, што ад старой арміі нам не засталося амаль ніякіх кваліфікаваных кадраў, якія маглі-б працаваць у галіне ваеннай тэхнікі. Амаль усе ўзоры ўзбраеньня старай арміі былі набыты за мяжой. **Таму асноўнай задачай пяцігодкі ў галіне абароны было тэхнічнае пераўзбраеньне Чырвонай арміі на базе пасьпяховага росту нашай індустрыі. Таму галоўнейшым зьместам нашай работы была тэхнічная рэканструкцыя Чырвонай арміі на базе новага ўзбраеньня, якое паступала з нашых заводаў.**

Вынікі нашай работы ў гэтай галіне ня меншыя, чым у другіх галінах. Чырвоная армія канца пяцігодкі зусім не падобна на Чырвоную армію 1927-28 г.г., таксама як наша краіна з яе новай эканамічнай геаграфіяй, новымі індустрыяльнымі цэнтрамі, новымі прамысловымі гігантамі, саўгасамі і калгасамі, зусім не падобна на СССР канца 1927 і пачатку 1928 г. Як і ва ўсім выкананьні першага пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва, так і ў гэтай спэцыяльнай галіне—будаўніцтве Чырвонай арміі і яе тэхнічным пераўзбраеньні неабходна асобна адзначыць і асобна падкрэсьліць выключную ролю т. **Сталіна**. Разумеючы выключную важнасьць для суцэльнасьці нашай дзяржавы, для пасьпяховасьці будаўніцтва сацыялізму моцнай узброенай абароны, валодаючы шырокімі ведамі ў ваеннай справе і найбагацейшым баявым вопытам у грамадзянскую вайну, т. **Сталін** прымаў заўсёды асабісты і непасрэдны ўдзел ва ўсіх пытаньнях, зьвязаных з тэхнічнай рэканструкцыяй арміі, з яе пераўзбраеньнем на новай тэхнічнай базе.

Што-ж мы маем у галіне тэхнічнага ўзбагачэньня арміі ў даны момант?

Ну, пачнем хаця-б з **кулямётнага ўзбраеньня**. Усім вам вядома значэньне кулямётнага агню ў сучаснай абароне. Кажучы проста, сучасная абарона не магчыма без насычэньня кулямётнай зброяй самых markdown розн настайных вайсковых падраздзяленьняў, да самых дробных уключна. Гэта было прычынай таго, што ў канцы імпэрыялістычнай

вайны і пасьля яе, побач з цяжкімі станкавымі кулямётамі, зьявіліся ручныя, зэнітныя, буйнакалібравыя і другія кулямёты, якія павінны выконваць у абароне тую ці іншую функцыю (абарона ад наступаючай жывой сілы, абарона ад авіяцыі, абарона ад бронятанкавых сродкаў і т. д. і т. д.). Наша Чырвоная армія яшчэ ў 1928 г. у кулямётным узброеньні ня мела нічога, акрамя добрага станкавага кулямёта, старога „Максіма“, ды і то параўнаўча ў невялікай колькасьці. Свайго ручнога кулямёта Чырвоная армія ня мела, і на яе ўзбраеньні былі розныя замежныя сыстэмы (Шош, Льюіс і Кольт). Усе гэтыя кулямёты ўяўлялі сабой ня толькі тэхнічна застарэлыя тыпы, але былі расстраляны, ня мелі належнай колькасьці запасных частак і наогул былі малабаяздольнай зброяй. Горш за ўсё было тое, што ў нас ня было сур'ёзнай, моцнай збройнай базы.

Тым больш вядома ў нас ня было сваіх авіяцыйных кулямётаў, ня было зэнітных кулямётаў, зусім ня было танкавых кулямётаў. І таму ўсе нашыя намаганьні ў пяцігадовым пляне пераўзбраеньня арміі перш за ўсё былі накіраваны да таго, каб забясьпечыць Чырвоную армію сучаснай магутнай кулямётнай зброяй.

У выніку работы ў гэтай галіне мы маем свой, які ня горш за сучасныя замежныя ўзоры, ручны кулямёт, авіяцыйны кулямёт, танкавы кулямёт і свае кулямётныя зэнітныя ўстаноўкі. Больш таго, у працэсе канструктарскай і вынаходніцкай работы па стралковаму і кулямётнаму ўзбраеньню мы стварылі моцныя кадры спэцыялістаў, майстроў-зброўнікаў, тэхнікаў, маладых інжынэраў, якія працягваюць займацца далейшымі вынаходжаньнямі ў гэтай галіне.

Як я ўжо казаў, ад старай арміі нам не засталося канструктарскіх кадраў. Мы сабралі іх на асобных заводах, галоўным чынам старых збройных майстроў, тэхнікаў, рабочых, арганізавалі іх, дапамаглі ім у іхняй цяжэйшай рабоце, далі ім сваю камуністычную тэхнічна-пісьменную моладзь, і ў выніку мы стварылі такую высокую кулямётназбройную культуру, якая без усялякага перавялічэньня дае нам магчымасьць вырашаць усе пытаньні, якія стаяць перад Чырвонай арміяй у тэхніцы стралковай справы. Зараз мы

маем самазарадную вінтоўку, маем некалькі ўзораў аўтаматычнай вінтоўкі, кулямёта-пісталета, аўтаматычнага пісталету і т. д.

Нашы маладыя савецкія канструктары ўпарта і пасьпяхова працуюць, наганяючы хуткую эўрапэйскую і амэрыканскую стралковую тэхніку.

У вырашэньні кулямётнай праблемы адыграў, побач з другімі канструктарамі, галоўнейшую ролю канструктар Дзегцяроў, які ўзнагароджан ЦВК ордэнам Працоўнага Чырвонага Сьцягу. Тав. Дзегцярову армія абавязана шматчым.

Але мы ня толькі стварылі за гэтую пяцігодку новыя ўзоры стралковага і кулямётнага ўзбраеньня, мы стварылі новыя прамысловыя базы, якія здолеюць выканаць усе нашыя патрабаваньні, здолеюць даць Чырвонай арміі дастатковую колькасьць так неабходнай ёй аўтаматычнай зброі ў выпадку нападу ворагаў на СССР.

Яшчэ горш стаяла справа раней у Чырвонай арміі з артылерыйскім узбраеньнем. Значэньне артылерыйскіх сродкаў змаганьня ў сучасным баі ўсім вам вядома. Вам таксама вядома і тое, што пасьля імпэрыялістычнай вайны ўсе буржуазныя арміі надзвычайна шмат працуюць у галіне ўдасканаленьня і канструкцыі новых сыстэм артылерыі. Амаль усе арміі і француская, і ангельская, і амэрыканская, і італьянская—ня толькі модэрнізавалі сваю старую артылерыю, выціснулі з яе ўсё, што можна выціснуць у сэнсе дальнасьці і ўбойнасьці, але і зьмянілі карэнным чынам суадносіны між асобнымі родамі артылерыі ў бок павялічэньня колькасьці гаўбіц і распрацавалі цэлы рад новых узораў.

Наша становішча ў гэтай галіне было ня менш цяжкім, чымся ў стралковым і кулямётным узбраеньні. Там, сярод старых рабочых кадраў-збройнікаў, мы змаглі адшукаць рад таленавітых вынаходцаў-самародкаў прыкладна, як Токараў, Дзегцяроў, навакол якіх аб'ядналіся нашы маладыя камуністычныя тэхнічныя кадры.

У галіне-ж артылерыйскага ўзбраеньня ў нас амаль ня было ніякіх канструктараў. Тое, што засталося ад старай арміі, ці вымерла, ці было не асабліва пісьменным, ці наўмысьля шкодзіла нам, затрымліваючы нашы работы па

пераўзбраеньні артылерыі. Засталіся літаральна адзінкі ад старых тэхнічных кадраў. На пустым месцы мы павінны былі ствараць канструктарскія кадры, арганізоўваць канструктарскія бюро, ставіць наноў надзвычайна складаную і тэхнічна-высокакваліфікаваную работу.

Тым больш мы павінны асабліва цаніць посьпехі, якія дасягнуты ў справе артылерыйскага пераўзбраеньня. Праўда, поўнасьцю задачы артылерыйскага пераўзбраеньня Чырвонай арміі намі яшчэ ня вырашаны. Перад намі яшчэ вялікая работа.

За гэты час мы модэрнізавалі нашу старую артылерыю, дабіўшыся ад яе такой магутнасьці (па дальнасьці і ўбойнасьці), што яна зараз не адстае ад эўрапейскіх узораў. Мы стварылі (г. зн. сканструявалі і паставілі на вытворчасьць) свае новыя сыстэмы цяжкой артылерыі, мы паставілі на вытворчасьць новую сыстэму зэнітнай артылерыі. Мы стварылі (г. зн. сканструявалі і паставілі на вытворчасьць) дробнакалібравую артылерыю. Мы зараз маем у вайсковых падразьдзяленьнях процьтанкавую гармату, маем асобныя сыстэмы гармат для суправаджэньня дробных падразьдзяленьняў пяхоты і для барацьбы з кулямётнымі гнёздамі праціўніка на кароткіх дыстанцыях.

Акрамя таго ў выніку работы нашых канструктараў мы маем вельмі вялікую колькасьць рознастайных новых артылерыйскіх сыстэм у тэй ці іншай ступені гатоўнасьці. Шмат якія з іх ужо выпрабаваны, паказалі бліскучыя вынікі і зараз вырабляюцца на нашых заводах.

Але што зьяўляецца самым галоўным дасягненьнем у гэтай галіне? Мы стварылі ў першую пяцігодку магутную базу для вытворчасьці артылерыі, стварылі моцныя канструктарскія бюро, выхавалі кваліфікаваных тэхнікаў і інжынэраў, стварылі на нашых заводах такую артылерыйскую культуру, якая дасьць нам магчымасьць вырашыць усе пытаньні ў галіне артылерыйскага ўзбраеньня нашай Чырвонай арміі.

Т. т. Маханаў, Магдасеяў, Сідарэнка і рад іншых маладых інжынэраў зьяўляюцца нашым гонарам.

Гэта яны ўмела і ўпарта працуюць над сучасным артылерыйскім узбраеньнем сваей рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

Вакол іх ствараюцца і выхоўваюцца новыя кваліфікаваныя кадры інжынэраў і тэхнікаў.

І нарэшце да 1928 г. у нас было ня зусім добра ў сэнсе знараднага запасу. У працілегласьць стралковаму і артылерыйскаму ўзбраеньню нам засталіся ад старай арміі значныя запасы артылерыйскіх стрэлаў. Але ўсе яны знаходзіліся ў дужа занядбаным стане, былі раскіданы па розных складах, не скамплектаваны, забясьпечаны застарэлымі трубкамі і ўзрывацелямі, што значна зьмяншала іх ўбойную магутнасьць. Дзякуючы праробленай намі за гэтыя 4 гады вялізнай рабоце мы прывялі наш запас артылерыйскіх стрэлаў у поўны парадак.

Чырвоная армія зусім ня мела танкавага ўзбраеньня. Нельга-ж было лічыць на самай справе танкавым узбраеньнем некалькі дзесяткаў танкаў, пры тым рознастайных марак і ўзораў, адбітых намі ў Дзянікіна, Урангеля. Юдзеніча і на іншых франтох у белагвардзейцаў і інтэрвэнтаў у часе грамадзянскай вайны. Аднак, да 1929 г., гэтыя некалькі дзесяткаў танкаў былі тымі адзінымі ўзорамі; на якіх „адукоўвалася“ і вучылася ўся Чырвоная армія. Гэтыя танкі мы паказвалі на парадах, яны выклікалі натуральна ўсьмешкі ва ўсіх замежных прадстаўнікоў, якія прысутнічалі на гэтых парадах. Нам-жа было не да ўсьмешак. Значэньне танкавай зброі ў сучасным баі ўсім вядома, яно вялізарнае. Сучасны фронт, насычаны да крайнасьці кулямётным агнём, наўрад ці можа быць прабіты без дапамогі танкаў. Гэтым тлумачыцца і тая асаблівая ўвага, якою карыстаецца ва ўсіх буржуазных арміях танкавая справа. Гэтым тлумачыцца тая вялізарная работа, якая вядзецца замежнымі арміямі па дасьледваньні тэхнічных і апэратыўна-тактычных уласьцівасьцяй танкавай зброі ў розных яе формах і камбінацыях. Усе гэтыя „Рэно“, „Рыкардо“ ды інш. сыстэмы, якімі мы шчасьліва авалодалі, былі вядома не баявой зброяй, а зусім непатрэбным хламам. У 1927 г. нам удалося сканструяваць свой усім вам вядомы танк, але гэты танк быў няўдалы і па сваёй баявой якасьці недалёка адышоў ад старых „Рэно“.

Неабходна было рабіць нейкія надзвычайныя захады. Цяжкасьць заключалася ў тым, што да 1928 г. у нас ня было ні аўтамабільнай, ні трактарнай прамысловасьці. Зусім відавочна, што мы ня мелі ніякіх тэхнічных кадраў, якія здолелі-б выгадаваць нашу Савецкую танкавую культуру.

За гэтым нам давялося стаць—і мы зрабілі зусім правільна—на шлях набыцьця замежных узораў. У выніку вялізнай напружанасьці сваіх сіл мы паставілі ў нас у краіне на вытворчасьць сучасныя танкі. І ня толькі паставілі на вытворчасьць, ня толькі стварылі танкавыя вытворчыя базы, але ўжо выхавалі на гэтай рабоце кадры кваліфікаваных канструктараў—т.т. Барыкаў, Лебедзеў, Тоскін ды інш.—і кваліфікаваных рабочых, якія, як і трэба было чакаць, ужо далі нам некалькі сваіх арыгінальных канструкцый, што ня ўступаюць вядомым замежным ўзорам. Мы зараз ужо можам без перавялічэньня сказаць, што за гэтыя чатыры гады мы поўнасьцю асвоілі і на вытворчасьці і ў арміі сучасную танкавую зброю.

Некалькі слоў пра авіяцыю. Наша авіяцыя ўжо ў 1928 г. ня была слабой. У гэтай галіне мы вельмі многа працавалі раней і да пачатку першай пяцігодкі дасягнулі значных посьпехаў. Але якасьць нашых самалётаў і матораў у адносінах іхняй высотнасьці, груза-пад'ёмнасьці і радыусу дзеяньня працягвала адставаць ад сусьветнай авіяцыйнай тэхнікі.

За гэтыя чатыры гады ў галіне самалётабудаўніцтва мы шагнулі ўперад. Мы стварылі авіяцыйную прамысловасьць. Аднак па якасьці авіяцыйнай прадукцыі мы яшчэ не дагналі сучасную сусьветную тэхніку. Таксама як і раней, мы ўсё яшчэ адстаём у маторабудаўніцтве. Аднак у гэтым адставаньні зараз няма ўжо нічога падобнага на тое, што было ў 1928 г. У сучасны момант мы маем некалькі сваіх сучасных узораў авіяцыйных матораў, з якіх некаторыя ўжо ставяцца на масавую вытворчасьць. Мы маем значна памацнеўшы і ўзросшы кадр авіяцыйных канструктараў. У нас ёсьць поўная ўпэўненасьць, што ў бліжэйшае пяцігодзьдзе мы выйдзем на ўзровень сусьветнай авіяцыйнай тэхнікі і створым усе ўмовы для таго, каб у гэтай галіне быць наперадзе другіх. Нашы авіяцыйныя інжынэры-канструктары, накшталт т.т. Туполева, Калініна ды інш. канструктараў маторабудаўніцтва накшталт т.т. Мікуліна, Назарава ды інш., будуць гэтаму зарукай. Яны справай пацьвярджаюць мае словы.

Толькі два словы пра наш морскі флёт.

Зразумела пяцігодка не абышла і нашыя морскія сілы. За гэтыя чатыры гады мы адрамантавалі ўвесь суднавы састаў, зрабілі некаторую мадэрнізацыю нашых лінейных

караблёў, узмацнілі крыху падводны флёт і ўзмацнілі нашую берагавую абарону. Лічны · састаў флёту значна вырас, кваліфікаваўся, акрэп ў авалодваньні складанай морскай тэхнікай. За першую пяцігодку значна разгарнулася наша суднабудаўнічая база.

Уся гэтая работа па тэхнічным пераўзбраеньні Чырвонай арміі была нялёгкай ня толькі для нас—ваенных працаўнікоў: яна вельмі дорага каштавала нашай дзяржаве. Дзяржава патраціла на гэтую справу не малыя сродкі. Я маю на ўвазе толькі выдаткі, якія зьвязаны з аплатай тэхнікі, што ідзе на ўзбраеньне рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, бяз уліку тых сродкаў, якія затрачаны на стварэньне вытворчай базы.

Мы ў 1927—1928 гг. на тэхніку затрачвалі ўжо вялікія сродкі, а вось для таго, каб зрабіць пераварот ва ўзбраеньні нашай арміі, пра які я дакладваў, трэба было затраціць яшчэ значна больш. Гэта дало нам магчымасьць тэхнічна рэканструяваць Чырвоную армію, зрабіць яе моцнай ня толькі бальшавіцкім духам, арганізаванасьцю і дысцыплінай, але і сваёй савецкай ваеннай тэхнікай, у тым ліку такой складанай, як авіяцыя і танкі.

І нарэшце апошняе пытаньне, якое нас з вамі пэрсанальна тычыцца,—гэта пытаньне аб кадрах. Чым складаней і рознастайней тэхніка, тым складаней яе скарыстаньне, тым цяжэй кіраўніцтва гэтай тэхнікай, тым больш вядома павінны быць падрыхтаваны кадры.

Тэхніка ня толькі ў многа разоў узмацняе нашу абарону, яна прад'яўляе да нас, армейскіх работнікаў, вялізарныя патрабаваньні. Новая тэхніка патрабуе ад усіх нас сталай работы над сабой, вывучэньня гэтай тэхнікі, яе засваеньня, набыцьця цьвёрдых навыкаў для баявой работы з гэтай тэхнікай.

Ці ўсё ў нас добра і гладка ў гэтай галіне? На жаль гэтага сказаць пакуль што нельга. Возьмем хаця-б нашу авіяцыю, у пачатку лётнага пэрыяду мінулага году мы мелі ў ёй успышку аварыйнасьці, якая пацягнула за сабой людзкія афяры і страты ў матэрыяльнай частцы. Гэта здарылася таму, што нашы лётнікі яшчэ не ў дасканальнасьці валодаюць тэхнікай, а тэхніка зрабілася вельмі складанай і яна жорстка карае тых, хто ня ўмее ёю кіраваць, хто не дастаткова цьвёрда яе засвоіў, хто з прахладцам падыходзіць да яе скарыстаньня. Чалавек зьяўляецца стварыцелем

тварцом усіх машын, усёй тэхнікі, але калі вы ажыўляеце пры дапамозе бэнзыну гэтую тэхніку—авіяцыйны матор, скажам, ён можа разарваць на часткі, ператрушчыць усе косьці і зьнішчыць свайго стварыцеля, калі ён, гэты „стварыцель", не навучыўся ім кіраваць, ня ведае яго дасканала, да дробязяй, як трэба. І, наадварот, самая складаная, самая магутная машына робіцца паслухмянай прыладай у руках тэхнічна-пісьменных людзей. Зараз нашы авіятары падцягнуліся, няшчасных выпадкаў стала мала. Работа пачалаісьці лепш. Значыцца тэхніку падпарадкавалі сабе, закілзалі яе, кіруюць ёю як належыць, добра, па-бальшавіцку.

Ня ўсё добра абстаіць у нас і ў танкавай справе. Праўда, ёсьць упэўненасьць, што дзякуючы загадзя зробленым захадам у танкавай справе мы ўнікнем тых памылак і няўдач, якія мы мелі ў авіяцыі. Але аднак і там першапачаткова накапляемы вопыт праводзіцца з накладнымі выдаткамі, якія ў залежнасьці ад нашай арганізаванасьці, ад нашага ўменьня валодаць гэтай тэхнікай могуць быць ці нязначнымі, ці надта вялікімі.

Тут на гэтым сходзе, няма чаго даводзіць, што наш абавязак перад партыяй, перад рабочай клясай, перад усімі працоўнымі заключаецца ў тым, каб авалодаць па-сапраўднаму новай тэхнікай, якую дала нам краіна, якая так дорага каштуе і так пільна нам патрэбна.

Што намі зроблена за першую пяцігодку па падрыхтоўцы і ўдасканаленьні кадраў Чырвонай арміі?

Перш за ўсё тэхнічна забясьпечаная армія патрабуе вялікай колькасьці тэхнікаў, інжынэраў і камандзіраў з агульнай вышэйшай ваеннай адукацыяй. Гэты асабовы састаў, як вам вядома, мы рыхтуем у ваенных акадэміях. У 1928 г. ва ўсіх ваенных акадэміях мы вывучылі 3198 слухачоў. У 1932 г. мы сцэцыялізавалі нашы акадэміі і павялічылі іх лік, адпаведна павялічыўся састаў слухачоў. Намі прыняты неабходныя меры па ўзмацненьні нашай вышэйшай школы падрыхтаваным, кваліфікаваным і палітычна-сьпелым моцным прафэсарскім і выкладчыцкім саставам. Вынікі работы акадэмій армія адчуе ў поўнай меры ў бліжэйшыя гады. Насычэньне нашых часьцей адукаванымі інжынэрна-тэхнічнымі кадрамі зьявіцца галоўнейшай зарукай таго, што тая тэхніка, якая ідзе ў армію, будзе знаходзіцца ў ёй у належным парадку і будзе ўмела скарыстоўвацца ў інтарэсах абароны краіны.

Але тэхнічна па-новаму аснашчоная армія патрабуе ня толькі вышэйшага кваліфікаванага саставу, ёй патрэбен другой якасьці і сярэдні начальніцкі састаў. Нашы ваенныя школы за мінулую пяцігодку падупалі вялікай зьмене. Вырасьлі спэцыяльныя школы—авіяцыйныя, танкавыя, інжынэрныя і тэхнічныя. Надзвычайна важным зьяўляецца навучэньне і выхаваньне ў гэтых школах паставіць на належную вышыню, каб атрымаць сапраўды добрых камандзіраў і тэхнікаў ня толькі ў сэнсе тэхнічнай іхняй пісьменнасьці, але і ў сэнсе іх клясавай вытрыманасьці і адданасьці нашай партыі.

У самой арміі за мінулую пяцігодку адбыліся зьмены ў разьмеркаваньні каманднага саставу па родах войск у адпаведнасьці з тэхнічнай рэканструкцыяй Чырвонай арміі. Так у пяхоце колькасьць каманднага саставу крыху зьменшылася; тое-ж адбылося і ў кавалерыі. Наадварот, узрасла колькасьць каманднага саставу ў артылерыі, танкавых і другіх тэхнічных войсках.

Палепшыўся сацыяльны састаў камандных кадраў. Лік рабочых з 28 проц. у 1928 г. узрос да 40 проц. Палепшылася партыйная праслойка, якая ўзрасла з 55 проц. у 1928 г. да 61 проц. у 1932 г.

Асабліва вялікі рост партыйнай праслойкі ў вышэйшых і старэйшых асноўных пасадах, напрыклад, у артылерыі ў старэйшым камандным саставе партыйная праслойка з 15 проц. узрасла да 81 проц., у пяхоце з 54 проц. да 88 проц. У бронятанкавых войсках яна роўна 100 проц.

Калёсальна вырасла партыйна-камсамольская арганізацыя РСЧА. Колькасьць членаў партыі і камсамольцаў у 1928 г. складала 31,6 проц., у сучасны момант члены партыі і камсамольцы складаюць 59,4 проц. усяго асабовага саставу арміі. Узрасла агульная культурнасьць чырвонаармейцаў, камандзіраў і палітработнікаў. Выпрацавалася сыстэма баявой падрыхтоўкі камандзіра і палітработніка ў войсках. Пастаўлена марксысцка-ленінская вучоба начсаставу на належную вышыню.

Створаны ўсе ўмовы для таго, каб кадры Чырвонай арміі былі варты тэй тэхнікі, якую далі сваёй арміі наша партыя і наша рабочая кляса пры пераможным завяршэньні першай пяцігодкі сацыялістычнага будаўніцтва.

В. СТАШЭЎСКІ

# НА ВАРЦЕ

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### Карціна I

Бесклапотная, лагодная музыка ў багатай кватэры жандараўскага палкоўніка. Іграе ў сваім пакоі яго трынаццацігадовая дачка. Сам палкоўнік заняты крывавым разгонам дзманстрацыі беспрацоўных. Вось ён зьяўляецца ў пярэдняи сваей кватэры, здымае шаблю, мундзір. Салдат здымае, дае дамашні халат. Палкоўнік мые рукі і з ручніком уваходзіць у пакой. Выцірае рукі, робіць нейкія рухі. Дзікая ўсьмешка і ён стомлена садзіцца ў крэсла.

Палкоўнік. Хто там іграе? Што такое? Анэля! (*Уваходзіць Анэля*), Што ты іграеш, Анэля?

Анэля. Я іграю Моцарта.

Палкоўнік. Няпраўда! Ты іграеш „Варшавянку“.

Анэля. Не тата, я „Варшавянкі“ ня іграю. Табе мусіць здалося.

Палкоўнік. Як гэта здалося? Чаму здалося?

Анэля. Ня ведаю (*Раптам званок, палкоўнік усхапіўся*).

Палкоўнік. Хто там?

Салдат. Пан Булонэк і пан Ваўчынскі. (*Анэля вышла*).

Палкоўнік. Э-эт... Няхай увойдуць. Пачакайце. Я сказаў увойдуць

Салдат. Увойдуць, пане палкоўнік.

Палкоўнік. А можа я не казаў, га?

Салдат. Мажліва, што і не казалі, пане палкоўнік,

Палкоўнік (*разважаючы*). Булонэк... і Ваўчынскі... Давай.

(*Хутка ўваходзяць: Булонэк і Ваўчынскі.*)

Булонэк. Пане палкоўнік, мы не маглі ня прыці да вас...

Ваўчынскі. Мы ня можам ня выказаць вам...

Палкоўнік. Падзякі?

Булонэк. Не падзякі, а наадварот...

Ваўчынскі. Свайго зьдзіўленьня.

Булонэк. Вы не тактоўна абышліся з беспрацоўнымі на заводзе пана Бруянскага.

Ваўчынскі. Праз вас, як члена нашай партыі сацыялістычнай кладзецца пляма на ўсю партыю.

Палкоўнік. Можа вы загадаеце мне пакінуць пасаду і здаць мундзір?

Булонэк. Так пытаньня мы ня ставім і давайце без амбіцыі. Усё такі згадзецеся самі: занадта многа пушчана крыві.

Ваўчынскі. І беспрацоўе-ж не зьмяншаецца.

Булонэк. Так, а камуністы ўсё гэта выкарыстоўваюць. Яны проста паказваюць на нашу партыю.

Палкоўнік. Гэта-ж іх мэтад: падымаць бунт і крычаць, што іх б'юць.

Булонэк. Бунтавалі беспрацоўныя.

Палкоўнік. А хто запалку запальвае?

Булонэк. Вось гэта справа іншая.

Ваўчынскі. А вы адкрылі страляніну па ўсіх.

Булонэк. У даным выпадку, мне здаецца, можна было-б інакш улагодзіць справу, больш мірным парадкам. А вы раптам страляеце. Вы разумееце, няма ў нас належнай ўзгодненай тактыкі.

Палкоўнік. Тактыкі? Вы сказалі тактыкі?

Булонэк. Тактыкі.

Палкоўнік. Так, так... Вось што, панове: ваша справа раздаваць ім шакалядкі, мармэлядкі, а мая—цукар і, ага. Прыгатаваныя са сьвінцовага і алавянага цеста. Тактыка па сутнасьці адна і ніякіх прынцыповых разыходжаньняў я ня бачу. (*Званок*).

(*Уваходзіць салдат*).

Салдат. Сакрэтны пакет, пане палкоўнік. (*Палкоўнік кладзе ручнік на плячо Булонэку і выходзіць. Булонэк зьдзіўлена глядзіць, здымае і кладзе на плячо Ваўчынскаму. Ваўчынскі таксама зьдзіўлена паглядзеў, здымае і перадае Булонэку.*)

Ваўчынскі. Вам палажылі, вам.

Булонэк. Ды яно ўсё роўна, пане.

Ваўчынскі. Ну так, але проша...

(*Уваходзіць Анэля*).

Анэля. А тата пайшоў?

Булонэк. Так, яны вышлі.

Ваўчынскі. Але, неўзабаве вернуцца.

Анэля. Вы, панове, сацыялісты?

Булонэк. Так.

Ваўчынскі. Так, так.
Булонэк. І тата ваш таксама сацыялісты.
Анэля. Не-ээ. Я не хачу, каб мой тата быў сацыялісты.
Булонэк. А чаму?
Ваўчынскі. Дзіўна.
Анэля. У гімназыі ёсьць адзін вучань...
Булонэк. Так, так.
Анэля. Дык ён... не, мой тата не такі.
Булонэк. А што?
Ваўчынскі. Проша сказаць.

(*Уваходзіць палкоўнік*).

Палкоўнік. Ну, панове, нам здаецца больш няма аб чым гаварыць.
(*Анэля вышла*). У мяне няма вольнага часу (*Булонэк перадае ручнік*). Павесьце (*Булонэк вешае ручнік на крэсла*).

Ваўчынскі. Ва усякім разе мы раім вам дзейнічаць больш тактоўна.
Палкоўнік. Усё?
Булонэк. Я разумею, калі ўжо няма іншага выхаду, ну, а так ня трэба даваць козыраў камуністам. Ускладняецца ігра.
Палкоўнік. Угууу... Камуністы ня іграюць, а разбураюць нашу дзяржаву і я буду дзейнічаць так, як патрабуе закон нашай айчыны. Я спадзяюся, што гэта будзе апошняя размова на гэту тэму.
Булонэк. Мы таксама не хацелі-б непакоіць пана.
Палкоўнік. І добра зробіце, а тым часам... (*гукае*). Карбул на!

*Уваходзіць салдат*

Ваўчынскі. Будзем спадзявацца...
Палкоўнік (*Да салдата*). Праводзь паноў і далажы мне, як у ватэрклязэце цыркулюе вада.
Салдат. Слухаю пане палкоўнік. *Да* (*Булонэка і Ваўчынскага*). Проша. (*Ваўчынскі важна выходзіць. Булонэк хоча пратэставаць. Палкоўнік не звярачвае ўвагі. Пайшлі*).

(*Уваходзіць невядомы*).

Палкоўнік. Я павінен папрасіць прабачэньне, што прымусіў вас чакаць. Вы ўяўлеце нахабнасьць гэтых двух герояў?

Невядомы. О так, так, пане палкоўнік.

Палкоўнік. Го, героі. Яны прышлі вучыць мяне тактыцы.

Невядомы. Дзіўна і... і сьмешна.

Палкоўнік. Мяне? Бунт у горадзе гэтых беспрацоўных бунтаўшчыкоў, антыдзяржаўныя лёзунгі і я іхняй бязмозглай галавы павінен быў пытацца што мне рабіць?

Невядомы. Бязмозгласьць відавочная. І ў такі напружаны час.

Палкоўнік. Дайце-ж спокуй.

Невядомы. Я да вас, пане палкоўнік, на невялікі час і з навінамі не асабліва прыемнымі.

Палкоўнік. А што?

Невядомы. У Маскве правал.

Палкоўнік. Дазвольце, у Маскве?

Невядомы. У Маскве.

Палкоўнік. Пачакайце, там што, прамахнуліся?

Невядомы. І папаліся.

Палкоўнік. У ДПУ?

Невядомы. Бязумоўна, хоць затрымалі два рабочыя.

Палкоўнік. А я ўпэўнены, што гэтыя два рабочыя былі агентамі, ДПУ.

Невядомы. Але-ж гэта не зьмяняе справы.

Палкоўнік. Але вучыць. Вы напэўна ведаеце: у іх-жа даўно існуе лёзунг: кожны камуніст павінен быць чэкістам. А у нас я высунуў-бы лёзунг: кожны член партыі сацыялістычнай павінен быць жандарам.

Невядомы. Не, гэтага нельга.

Палкоўнік. Чаму? і наадварот: кожны жандар павінен быць членам партыі сацыялістычнай, нават камуністычнай, ага, ха-ха.

Невядомы. А, так, я разумею, пане палкоўнік. Зусім слушна!

Палкоўнік. Ну, што-ж, трэба пасланць зьмену, каб ня ўтраціць сувязі з некаторымі асобамі. У нас ёсьць вольны „пралетарыят“ для пасылкі.

Невядомы. Падрыхтаваныя намі ў „пралетары“ не набылі належнага пралетарскага выгляду! Я, фактычна, ня ведаю на кім спыніцца.

Палкоўнік. Ёсьць людзі, падшукаем, замаскуем.

Невядомы. Блаславім.

Палкоўнік. У Парыж вы заўтра?
Невядомы. Заўтра.
Палкоўнік. У сутане, ці так?
Невядомы. І так, і так.
Палкоўнік. А ведаеце, што я рашыў? Легалізаваць камуністычныя арганізацыі на ваенных заводах.
Невядомы. Як? (*салдат прынес віно і бакалы*).
Палкоўнік. Ня пужайцеся. Арганізаваць. Камуністы там ёсьць, а паспрабуйце злавіць? Тонкая штука. Набіраем на работу туды беспрацоўных камуністаў, яны пастараюцца арганізавацца, уцягнуць тых, што замаскаваліся. А тады—проша. (*Выпіваюць, палкоўнік паказвае свой бакал*). Чыста.
Невядомы. Разумею, пане палкоўнік. А ўсё такі ня лёгкая наша работа.
Палкоўнік. Я адчуваю сябе вартавым ня толькі сваёй айчыны, а ўсяго цывілізаванага сьвету. І вось гэтае ўсьведамленьне дае мне сілы, энэргію, бадзёрасьць, ага. З гэтай варты я сыйду толькі тады, калі сыйдзе з гістарычнага шляху мой сьвет.

**Карціна II**

Фабрычная сьцяна. Ноч. Ляжаць людзі. Збоку стаіць Дымскі і першы рабочы хлапец.

1-шы рабочы. Таварыш Дымскі, адозвы я прынёс.
Дымскі. Дзе яны?
1-шы рабочы. Там ў адным месцы на Рудой вуліцы.
Дымскі. Які быў загад?
1-шы рабочы. Сказалі перадаць вам.
Дымскі. Вось што, браток, зрабі: панясеш па вуліцы і кожнаму ў двор, а лепей на ганак і на вуліцу раскідаеш—аж да фабрыкі.
1-шы рабочы. На кожны двор?
Дымскі. Давай на кожны. Тут амаль усе рабочыя. Галоўнае, каб выходзячы з дому на завод маглі прачытаць.
1-шы рабочы. Прачытаюць.
Дымскі. Ну, малайчына. (*Першы рабочы пайшоў. Да Дымскага падыходзіць Зданэль*).
Здана эль. Куды ты паслаў хлапца?

Дымскі. А вось паслаў здабыць хлеба, некаторыя зусім паслаблі.

Зданэль. Хлеб, хлеб... эх... Слухай, Дымскі, давай пагаворым. Хачу шчыра сказаць, што вярнуцца нам на фабрыку ня ўдасца. Становішча такое, што яна кожны дзень будзе выкідваць нашага брата ў бязьдоньне беспрацоўя, і набліжаецца такі час, калі хваравіты пульс гэтай фабрыкі спыніць сваю дзейнасьць. Гэта ня значыць, што ня трэба ісьці на фабрыку і пратэставаць. Мы пойдзем. Адказам на крывавы разгон дэманстрацыі павінен быць яшчэ большай сілы пратэст, і мы гэта зробім.

Дымскі. Дык у чым справа?

Зданэль. Мне ўдалося сёньня праведаць, што ваенны завод набірае рабочых, асабліва мэханікаў. А што, каб папрабаваць? Можа і ўдасца прыстроіцца.

Дымскі. На ваенны? Вайна?... А супроць каго?

Зданэль. Я разумею, Дымскі. Гэта ня значыць, што мы ваюем.

Дымскі. А толькі памагаем.

Зданэль. Ня ў гэтым справа. Мы захоўваем жыцьцё, гэта, па-першае, у такім становішчы. А там будзе відаць, разумееш? У мяне асабіста там ёсьць некаторыя знаёмствы, і я спадзяюся правесьці там нашу работу. хоць я на сёнешні дзень афіцыйна і ня член кампартыі. А табе было-б асабліва...

Дымскі. Я таксама беспартыйны.

Зданэль. Ну, аб гэтым ня будзем гаварыць. Трэба рабіць, а сама работа пакажа партыйнасьць і сьвядомасьць кожнага з нас. (*Відаць усхапіўся адзін рабочы. У руках абрывак вяроўкі. Ён пабег*).

Дымскі. Што такое? (*Зданэль пабег за рабочым. Чуваць галасы*).

Зданэль. Што ты робіш, адумайся!

2-гі рабочы. Не чапай! Пусьці!

Зданэль. Не дазволю!

2-гі рабочы. Пусьці! (*Зданэль цягне за руку*).

Зданэль. Што ты, звар'яцеў?

2-гі рабочы. Адыйдзі ад мяне.

Зданэль. Не адыйду. У пятлю палез.

Дымскі. (Да Зданэля). У цябе ёсьць хлеб?
Зданэль. Крыху ёсьць.
Дымскі. Дай сюды. (*Дае 2-му рабочаму*). На, вазьмі.
2-гі рабочы. Не хачу!
Дымскі. Вазьмі!
Зданэль. Ну, вазьмі. Нельга-ж так. Пакуль жывеш, дык трэба-ж есьці. Дай сюды вяроўку.
2-гі рабочы. Ты мне даеш хлеб, а я табе вяроўку? Не-э!
3-ці рабочы. Што тут здарылася?
Зданэль. А нічога. Ня хоча браць хлеб.
3-ці рабочы. Бо ня хоча есьці.
Дымскі. Памаўчы! Бяры (2-гі рабочы бярэ). Ну, а цяпер скажы: ну ты скончыў жыцьцё самагубствам, каму ад гэтага лягчэй.
2-гі рабочы. Мне.
Дымскі. Пачакай, мо' я ня так паставіў пытаньне.
2-гі рабочы. Ды ня пытайцеся, самі заўтра палезеце.
Зданэль. Ну, што за разважаньні.
Дымскі. Не гадзіцца. Не на сябе надзявай пятлю, а на таго, хто цябе давёў да гатага. Мацней нэрвы! Вазьмі прыклад, ну хоць-бы з Каменкі. Што, ён не такі галодны, як і ты? Ледзь ходзіць, а трымаецца.
2-гі рабочы. Я ня маю сілы. Я, Дымскі...
Дымскі. Я разумею, будзем гаварыць сёньня з гаспадарамі. Ня прыме—зноў дэманстрацыя, ды яшчэ не такая.
3-ці рабочы. Ізноў кулі паліцыі, а рабочую кроў, хто яе будзе цаніць.
Дымскі. Рабочая кроў ацэнена. Рахунак будзе прад'яўлены.
3-ці рабочы. А хто будзе плаціць?
Дымскі. Мы ведаем хто заплаціць і як яшчэ заплаціць. (*Пачынае крыху разьвіднявацца*).
Зданэль. Я думаю, ці не пара нам варушыцца?
Дымскі. Будзеце ўсіх.
Галасы.—Уставай!
— Пойдзем!
— Варушыцеся!
Зданэль. Будзі Каменку.
3-ці рабочы. Каменка! Уставай, чуеш? (*Кітурхае нагою*). Чуеш, Каменка! (*Нагнуўся, памацаў*). Вось табе і ледзь ходзіць, вось табе і трымаецца...

Галасы: А што, што?
— Будзі!
— Каменка!

3-ці рабочы. Халодны ўжо.

2-гі рабочы. Ай, мне страшна! (*Кінуўся воб-зямлю. Рабочыя абступілі Каменку. Зданэль падбег да 2-га рабочага*).

Зданэль. Ну, што з табою робіцца? Супакойся!

3-ці рабочы. Каменка... Каменка...

Дымскі. Бярыце яго. Пойдзем. Паложым у варотах пры ўваходзе на завод. Няхай паглядзяць у вочы галоднай сьмерці. Падымайце. (*Рабочыя падымаюць Каменку, нясуць. Музыка. Узрывы стрэлаў*).

**Карціна III**

Варта сацыялістычнай дзяржавы. Застава. Чуваць глухія стрэлы. Нач. заставы Лугански гаворыць па тэлефону.

Лугански. Слухаю. Слухаю. Так (*Палажыў трубку*). Дык вось, таварыш Ракавенка, я ўпэўнены, што вы і гэту нагрузку таксама выканаеце энэргічна, па-баявому.

Ракавенка. Е, товарыш начальнік, а тількы я хотів доложыть...

Лугански. А пасьля непасрэдна мне і далажыце. (*Звоніць тэлефон*). Слухаю.

Ракавенка. Я хотів доложыть, товарыш начальнік...

Лугански. Таварыш комэндант? Прычыны выясьнілі? Так. (*Палажыў трубку*).

Ракавенка. Я хотів доложыть...

Лугански. Вы пакет даставілі са спазьненьнем на 56 мінут. Гэтага я ад вас не чакаў. Прычыны?

Ракавенка. Оцэ я і хотів доложыть: у совгасі затрымався.

Лугански. Што ў саўгасе?

Ракавенка. Річка і... і я пакупався.

Лугански. Пакупаліся? А каня нябось не пакупалі? Пагранічны конь ня ведае мірнай абстаноўкі, а вы сабе знайшлі. Атмосфэра на Захадзе награваецца, а мы будзем прахалоджвацца. І гэта з вамі здараецца другое здарэньне. Пяць сутак арышту. Можаце ісьці. (*Ракавенко выходзіць. Званок. Уваходзіць дзяжурны*). Пазавеце сакратара парт'ячэйкі.

Дзяжурны. Ёсьць, тав. начальнік.
Луганскі. Заняткі ў яго скончаны?
Дзяжурны. Яшчэ ня скончаны, тав. начальнік.
Луганскі. Тады ня трэба. Я сам убачу яго.

**Карціна IV**

Група чырвонаармейцаў на падрыхтоўчых занятках. Праводзіць сакратар ячэйкі камандзір аддзяленьня Крапіўка. На вялікай дошцы: „Рыхтуйся да палітзаняткаў“. „Чарговая тэма: аб другой пяцігодцы“. Рэкомэндацыйны сьпіс літаратуры“.

Крапіўка. У каго яшчэ будуць пытаньні?
Чабан. У мяне яшчэ адно пытаньне.
Крапіўка. Давайце.
Чабан. Мы пабудавалі магутную Дняпроўскую гідрастанцыю. І зараз будуецца станцыя яшчэ большай сілы. Зразумела, што водная энэргія мае ўсе перавагі перад торфам. Але справа ў тым, што мы інтэнсыўна праводзім мэліярацыю, заваёўваем тысячы гэктар для с-гаспадарчых культур. Усё гэта добра. А вось у мяне ўзьнікае такая думка: узяць БССР. Тут балоты зьяўляюцца рэзэрвуарамі для рэчак. Пры асушцы мы спускаем гэтыя рэзэрвуары. У першыя гады мы бачым перапоўненыя басэйны рэк, а далей—адкуль яны будуць папаўняцца? Ёсьць падземныя воды, але мне здаецца іх недастаткова. І ці ня можа здарыцца так, што праз які час, мо‘ дзесятак гадоў на турбіны Дняпроўскай станцыі ня хопіць вады.
Чырв-цы. Хопіць. Чаго добрага, вады.
Крапіўка. Пачакайце. Пытаньне цікавае. Праблема энэрга-запасаў. Ясна, таварышы, перш чым закладваецца якое будаўніцтва, ну, скажам, Асінстан, або Крычаўскі цэмантны завод. Папярэдня дасьледуецца сыравінная база. А на гідра-пабудовах улічваецца сіла вады і зразумела яе запасы. Я ня думаю, каб уся рачная сыстэма Дняпра не забясьпечыла энэргіяй станцыю. Спэцыялістам гэтай справы лепей відаць. А ў сувязі з проблемаю Вялікага Дняпра, калі на Дняпры мяркуецца пабудова некалькіх станцый, мажліва прыдзецца падумаць аб другім, а менавіта аб лішках вады. Яшчэ

будуць пытаньні? Няма? Так. Літаратура выкарыстана. Канчаем. Праз 10 мінут палітзаняткі. (*Пайшоў. Чырвон-цы закурваюць*).

Першы чыр-ц. Х-ха! Філёзафу мала вады. Днепр перасох, Ха-ха.

Ракавенка. А цэвін правільно паставів пытаньня. Він далёка глядыть.

Першы. А пад носам ня бачыць.

Чабан. Каму гаворыш?

Першы. Так у неба.

Ракавенка. Там дурні трэба. А на шчот воды, та колы патрібно—мы знов повернемо з мора і прымусым крутыті турбіны Дніпрэльстану, шчоб відчувалася наша рэспубліка, а не якій там, як ты казав?

Чабан. Лімітроф.

Ракавенка. О, а нэ які-нібудь худэй бужуйскі лімігрох,

Першы. Ох!

Ракавенка. А вот Гузыкаў нашчот комсамолу докумэнтально скотывся в опортуністычне болото.

Файзула. Правільна!

Гузікаў. А прычым тут балота?

Ракавенка. А болото, воно не тількы то, шчо мокре а воно і тут бувае. (*Паказвае на лоб*).

Файзула. Фашызма гулят, да? Шытай газэты. Другі пяцілетку канчаем, клясы нет. А Польш, Францыя, Англія. Японія фашызм тожа нет?

Зачым комсамол? Умны галава,

Ракавенка. Ага.

Гузікаў. Умны галава. Пяць гадоў наперадзе, друг Файзула.

Файзула. Да.

Гузікаў. А за пяць гадоў у тваей Францыі, Англіі можа быць вось, што навальніца.

Ракавенка. Цэ підходяшчэ сказано, а толькі комсамол будэ і таді, колы нэ стане ніодного слупа.

Другі чыр-ц. А дзе яны падзенуцца.

Чабан. Згараць у полымі сусьветнай рэвалюцыі.

 Другі чырв-ц. А калі ў якой дзяржаве жалезныя?

Ракавенка. Выгранка пэрэплавыть. Був колы в пловільному цэху? А я можно сказать пэрэплавляв. А рэвалюцыя—цэ-ж така ваграика!.. Ну, звычайно бувае шлак.

Файзула (*Да першага чырв-ца*). Вада табе сьмех, да? Давай сярэдні адзія вада, давай. Дастаем ваду—усё жыве. Многа, многа хлапок, вінаград, культура. Нет вада—голы пустыня. Прападай! (*пайшоў*).

Першы чырв-ц. Кранулі хворае месца Файзулы.

Гузікаў. Ну, добра, Ракавенка, а скажы вось, як ты ўяўляеш міліцыю ў бясклясавай грамадзе?

Ракавенка. Гы, дай, Чабан йому формулу, па філёзофскому сшыбай з ног.

Чабан. Міліцыя—суць арганізацыя, лёзунгам якой павінна быць: пытаньне табе бясклясаваму грамадзтву. Ты патрабуеш ад нас далікацтва, будзь-жа і само далікатным.

Ракавенка. Ну. Пішлы. (*Пайшлі*). А цэ гасло коопэратывных прылавнікіў.

Чабан. Но, но.

Першы чырв-ц. Загнуў.

Карціна V

Ленкуток. Файзула працуе над выгашэньнем матэматычнай формулы, рашае задачу. Увайшоў Крапіўка, глядзіць. Файзула не прыкмячае, пачынае злавацца, стукае крэйдаю па дошцы. Павярнуўся, убачыў Крапіўку.

Крапіўка. Сярдзітая матэматыка?

Файзула. Цяжкі, т. камандзір, формула. Адынь выходыт другі не выходыт сам не знаю.

Крапіўка. Так.

Файзула. Началі правільна, рашаем, куда рашаем знаем, а...

Крапіўка. Ды тут мала чаго не хапае.

Файзула. Ага, ага. (*Пачынае тлумачыць формулу*).

Крапіўка. Не хапае унівэрсытэту і вам і мне. А то-б мы хутка рашылі.

Файзула. Хутка т. камандзір. (*чуваць галасы чырвонаармейцаў: „Ня так гэта проста вырашаецца". „А што там", „Ого—го" Уваходзяць*).

Чабан. Паміж Карлам Марксам і камандзірам аддзяленьня я прынцыповых разыходжаньняў ня бачу. (*Крапіўка слухае, сьмяецца. Засьмяяліся ўсе*)

Крапіўка. Ну, жывей заходзьце. (*Чырвонаармейцы заходзяць. Чабан падышоў да Файзулы*).

Чабан. А далей?

Файзула. Знаеш? Паказвай сам.

Уваходзіць Луганскі

Крапіўка. Зважай: Тав. начальнік, на занятках прысутнічала 40 чалавек, тры камандзіры аддзяленьняў. Хворых няма.

Луганскі. Вольна, (*чырвон-цы садзяцца*). А кавалерысты тут?

Галасы. Тут, т. начальнік.

Луганскі. Сёньня мы разглядаем асноўн.я пытаньні другой пяцігодкі. Важнейшым пытаньнем зьяўляецца пабудова бясклясавага грамадзтва. Некаторыя разглядаюць альбо думаюць, што бясклясавае грамадзтва гэта— камунізм. Да камунізму, таварышы, яшчэ далёка. Мы будуем першую ступень, сацыялізм і ставім сабе задачай к канцу другой пяцігодкі пабудаваць бясклясавае грамадзтва. Гэта ня значыць, што вось прабіла 12 гадзін канца другой пяцігодкі, і мы віншуем адзін аднаго з уступленьнем у камунізм.

Давайце разважаць рэальна. Мы ставім задачу—у другой пяцігодцы ліквідацыю клясаў. Гэта значыць, што трэба жорстка змагацца з клясавым ворагам. Ды мы-ж яшчэ знаходзімся ў капіталістычным абкружэньні і супярэчнасьці... (*Чуваць стрэлы, ускаквае дзяжурны*)

Дзяжурны. Тав. начальнік, на поўначы трывога.

Луганскі. Узяць дзяжурнае аддзяленьне, высьветліць.

Дзяжурны. Тав. Крапіўка, ваша аддзяленьне.

Крапіўка. (Устаў). Тав. начальнік, можна весьці?

Луганскі. Вядзеце.

Крапіўка. Аддзяленьне за мной! (*У момант 6 чалавек выходзяць, разьбіраюць вінтоўкі, строяцца*). Вінтоўкі спраўны? Патроны? Зважай! Напра-во! Шагам-марш: (*Пайшлі. Вырысоўваецца карта*)

Луганскі. А вось карта нядаўніх гадоў капіталістычнай прамысловасьці Заходня-эўрапейскіх дзяржаў. (*На карце*

*мы бачым многа сьветлых сініх знакаў. Сярод іх відаць і жоўтыя знакі. Сінія знакі ў розных мясьцінах пачынаюць зьнікаць*). Тысячы прадпрыемстваў скарачаюць сваю вытворчасьць, закрываюцца. Затое жоўтыя знакі, як бачыць застаюцца, вар'яцкі ўзмацняюцца, пашыраюцца. (*З глухімі выбухамі зьяўляецца больш жоўтых знакаў*). Ваенныя заводы (*Вырысоўваецца частка ваеннага заводу*).

**Карціна VI**

Дымскі і Зданэль працуюць на ваенным заводзе. Гукі. Стук. Гудок. Яны кідаюць работу, зьяўляюцца ў другім месцы.

Зданэль. Порахам пахне Дымскі.

Дымскі. На ваенным заводзе працуем і хочаш, каб ня пахла порахам.

Зданэль. А ўсё—такі 2—3 дэлегатаў у Савецкі саюз мы пашлем.

Убачыць бацькаўшчыну сусьветнага пралетарыяту, Дымскі....

(*Падышоў трэці рабочы*).

Трэці.. Наша група выказалася за пасылку цябе, Зданэль.

Зданэль. Мяне? Я вельмі рад, але... лічу, у першую чаргу заслугоўвае гэтага гонару Дымскі. Я прыму ўсе захады, каб Дымскі таксама паехаў (*Гудок, яны разыходзяцца*).

**Карціна VII**

Зданэль у групе 2—3 рабочых.

Зданэль.. Вызначылі кандыдатаў?

Рабочы. Вызначылі цябе і Дымскага, або Матуса.

Зданэль. На маю думку варта канчаткова спыніцца на Дымскім.

Рабочы. Калі ён камуніст, ясна выберам яго

Зданэль. Я думаю, што мы не памылімся.

**Карціна VIII**

Дымскі працуе на заводзе. Рытм кулямёта, гукі разрыву куль. Задумаўся Дымскі.

Дымскі. Мне здаецца, што я страляю з кулямёта. А куды ляцяць гэтыя кулі? Яны расстрэльваюць дэманстрацыі беспрацоўных, яны рыхтуюцца для тых, што

падымаюць голас пратэсту супроць нявольніцтва, голаду. А я рыхтую кулі... (*Яму робіцца жудасна, збоку зьявіўся афіцэр, пастаяў пайшоў. Дымскаму ўспамінаюцца малюнкі вайны. Яны вырысоўваюцца на сьцяне, каля якой ён працуе. Зьнікаюць, Дымскі працуе. Зьяўляецца адзін рабочы*).

Рабочы. Вас клічуць у кантору.

Дымскі. У кантору? Я не магу пакінуць работу.

Рабочы. Я замест вас стану.

Дымскі. Вы станеце?

Рабочы. Мяне прызначылі.

Дымскі. А... а мяне разьлічваюць, звальняюць?

Рабочы. Мяне прызначылі.

Дымскі. А... а мяне разьлічваюць звальняюць?

Рабочы. Ня ведаю.

Дымскі. Станавіцеся. Так, так. Тут надзвычайна весела працаваць. Вы адчуваеце які рытм? Та—та та... Ха—ха—ха (*Пайшоў. новы рабочы працуе*)

**Карціна IX**

Дымскі і адзін рабочы

Рабочы. Каго яшчэ звольнілі?

Дымскі. Ня ведаю. Нас дэлегатаў абодвух.

Рабочы. Выехаць вам ня ўдасца.

Дымскі. Зданэль мяркуе паехаць у Чэха-Славакію, а там рыхтуецца дэлегацыя і ўжо адтуль разам ехаць.

Рабочы. Зайдзеш да мяне ўвечары, паталкуем. (*Пайшоў. Дымскі ідзе далей, падыходзіць Зданэль*).

Зданэль. Са сродкамі справа ўладжваецца. Таварышы памагаюць. Значыць едзем, Дымскі, у Савецкі саюз!

**Карціна X**

Лугански. (*Чуваць яго голас*). Паглядзімо на карту нашай сацыялістычнай прамысловасьці. (*Вырысоўваецца карта СССР. Каля яе гордая постаць чырвонаармейца*). Першая пяцігодка ў чатыры гады і адзін за адным нараджаюцца гіганты. (*На карце ў розных пунктах узьнікаюць чырвоныя знакі будаўніцтва. Называе некалькі*). Асінстан! Днепральстан! Сталінград! стан Балахна! Магнітагорск, Кузбас! (*Постаць чырвонаармейца*).

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### Карціна I

Прыгранічная станцыя. Арка з лёзунгам на ёй: „Вітаньне працоўным Захаду“ На пэроне невялікая група нашай рабоча-сялянскай дэлегацыі, для сустрэчы замежных рабочых. Чырвоны сьцяг. Наперадзе начальнік кантрольнага пункту. Збоку стаіць Луганскі. Крыхуваддаль Ракавенка. Мамант пaдыходу поезда. Гукі аркестру, які выконвае марш, зьліваюцца з шумам поезда. На арцы зьяўляецца новы лёзунг; „Камунізм зьнішчыць усе граніцы“. Вагон поезда. У вокнах рабочыя. Выстаўлены кулакі. Выгукі „Рот-фронт!“ Рот-фронт! Рот-фронт! Выскаквае нямецкі дэлегат, вітае

Немец. Гэноссэн! Пралетарыят Нямеччыны з вялікай увагай сочыць за творчым жыцьцём вялікага Савецкага саюзу. Пралетарыят Нямеччыны не „любапытны“ наглядач.

Перадавая частка пад кіраўніцтвам нямецкай кампартыі штурмуе капіталізм сваёй краіны. Гэноссэн! Мы з вамі! Няхай жыве сусьветны Савецкі саюз! (*Галасы*!. *Рот-фронт*! *Говорыць на нямецкай мове. Яго зьмяняе чэская дэлегатка Клара Валочэк. Адзін дэлегат выразна стрымлівае сябе, каб не расплакацца*).

Клара Валочэк. Таварышы! Чэская дэлегацыя ня першая ў вас. Мы едзем вучыцца ў вас. Таварышы! У нас кожны дзень, кожную гадзіну ўзмацняецца наступ капіталу на працоўных гораду і вёскі. Мы даём адпор, мы рыхтуемся, каб разам з вамі даць апошні бой нашым ворагам. Няхай жыве сусьветная рэвалюцыя! Няхай жыве III Камуністычны інтэрнацыянал! (*Гаворыць чэскай мовай, музыка, выступае наш прадстаўнік.)*

Н. прадстаўнік. Вітаньне вам, браты па клясе, на нашай зямлі. Глядзеце, вывучайце, крытыкуйце, памагайце. Нашы сябры зразумеюць нас. Вораг у пралетарыяту адзін, задачы адны. Вітаньне! (*Дэлегаты радасна вітаюцца. Выходзіць: Дымскі, Зданэль. Дымскі вітаецца з Ракавенкам, частуе папяросай. Ракавенка дастае сваю каробку, абменьваюцца. Клара ўглядаецца ў Ракавенку*)

Клара. Мой брат! Такое падабенства. (*Вітаюцца*). Мой брат тож у арміі, чэскай. Ну, але ён з вамі.

Ракавенка. Цэ дужэ приемно.

Клара. А як вас зваць?

Ракавенка. Мэне? Ракавенка Васылі.

Клара. Я запішу, можна?

Ракавенка. Будь ласка.

Клара. Я напішу брату, а ён вам.

Ракавенка. Дужэ цікаво.

Клара. А адрас?

Ракавенка. Та проста сюды, мэне тут знають.

Клара. А вось вам мой адрас. Вы напішаце, добра?

Ракавенка. З прыемністю (*Прачытаў адрас*). Клара Валочэк?

Клара. Так. Ракавенка?

Ракавенка. Васыль.

Клара. Ну. (*Дае руку*) Як падобны! (*Цісьне руку*).

Ракавенка. А можэ шчэ убачымось. (*Музыка ірае марш; дэлегаты адзін аднаго клічуць, сьпяшаюцца. Да Ракавенк падышоў чырвон-ц*).

Чырвон-ц. У міжнародную закахаўся?

Ракавенка. Братам прызнала. Як шчо вона пролетарського проісхожденія—можу взяты і за сэстру.

**Карціна II**

Вэранда калгаснай канторы. Працуе рахункавод. Спачатку млява адмахваецца ад мух, пасьля злуецца. Схапіў папку, ляснуў ёю па сьцяне. Падышла Куракевіч.

Куракевіч. Мухі дакучаюць васпану?

Рахункавод. Каб-жа мухі, а то аса ўелася, так што няма ратунку. Прычапілася, як той японец да кітайца.

Куракевіч. О, оса яна ўедлівая мошка.

Рахункавод. Але я прыкончыў яе.

Куракевіч. Я хачу параіцца з вамі: можа мне зьвярнуцца да гэтай камісіі, што ходзіць тут?

Рахункавод. Мадам, гэта не камісія, а загранічная дэлегацыя.

Куракевіч. Дык вось можа яны і памогуць, пасаромяць наша праўленьне.

Рахункавод. Гэтага яны ня зробяць. Гэта будзе адкрытая інтэрвэнцыя.

Куракевіч. Што будзе?

Рахункавод. Парушэньне міжнародных дагавароў і салідарнасьці пралетарыяту.

Куракевіч. А мой муж не пралетарыят?

Рахункавод. Я гэта ведаю.

Куракевіч. Да апошніх год парабкам быў.

Рахункавод. У вас?

Куракевіч. Няхай сабе і ў мяне. А як я магла жыць пасьля сьмерці мужа?

Рахункавод. Усё гэта мне зразумела і давайце будзем гаварыць афіцыйна. А яшчэ лепей зусім не гаварыць.

Куракевіч, Я хачу ведаць за што мяне выключылі з калгасу.

Рахункавод. Адказваю: як элемэнт.

Куракевіч. Які гэта алімэнт?

Рахункавод. Не алі, а эле. Эксплёатацыя свайго цяперашняга мужа Марку, маскіроўка і... Язычок у вас цётка Ганна... Ідзеце лепей, бо ідуць дэлегаты. Ідзеце так будзе лепей. Не падводзьце-ж вы мяне. Пасьля пагаворым, ідзеце (*Куракевіч пайшла. Ён старанна працуе*).

Старшыня калгасу Цімох Крапіўка, Дымскі, Зданэль.

Дымскі. (*Цісьне руку Крапіўку*). Дзякую, таварыш. Нячуваную ў сьвеце вы робіце справу. Я цяпер разумею, што гэта складаны ня лёгкі шлях, але ёсьць адзінаправільны

Ц. Крапіўка. Дзякую, што наведалі наш калгас. Буду спадзявацца, што калі пачнецца вайна, вы нас падтрымаеце. Нам яна не патрэбна.

Зданэль. Нам тэж яна не патрэбна, але нам і патрэбна яна, толькі ня з вамі, а з нашай-жа буржуазіяй.

Ц. Крапіўка. Ну, я вам скажу так, калі буржуі пойдуць на нас, то ня думайце, што мы сагнёмся.

Зданэль. О, так, так.

Крапіўка. Вось каб каторага з вас, ды ў падмогу нашаму Мотку, ды гэта была-б кузьня.

Дымскі. І Мотка добры каваль.

Ц. Крапіўка. Не, ён нішто. (*Жанчына прынесла два галяндзкіх сыры*).

Ну, вось наша маладая фэрма прынесла вам падарунак. Можа крыху маладыя сыры, але есьці можна.

Дымскі. Таварыш дарагі, ня трэба гэтага, навошта?

Зданэль. Мы і так абавязаны вам... Ну, мы возьмем адзін, а другі—вы, па-таварыску. (*Перадае Крапіўку*).

Ц. Крапіўка. Не, не, што вы. Я яго ніколі ў рот не бяру.

Адась. У атаку гоняць Зараз пагоняць.

Аддзялённы (*каманды*)

Аддзяленьне, марш!

(Аддзялённы вядзе салдат з акопу ў атаку. Павал Няміра прытуліўся ў пустым акопе).

Павал. (*Астаўся ў акопе і енчыць*) О-о-о... Божа, выратуй мяне. (*Раптам заўважыў у акопе Адася Гушку*) Адаська і ты застаўся?... О-о-о, божа выратуй мяне.

Адась. Ціха, жывы застанешся.

Павал. Ня выраблю жывым. О-о-о-о...

Адась. Сьціхні ты. Прытуліся да сьцяны. Другая лінія ў атаку ідзе.

Павал. Дзе мне дзецца. Куды схавацца ад людзей. Каб я адзін астаўся, а ўсе, каб... хоць пагінулі. Каб ціха і каб яшчэ больш цёмна. І так, каб хоць да самай сьмерці. Так жыць доўга, доўга... О-о-о-о...

Адась. Ня сьціхнеш—задушу. Слухай, прайдзі налева, там ёсьць выхад у пустыя ямы. Там пасядзі. Фронт пройдзе або сюды, або туды...

Павал. А тады што будзем рабіць, Адаська?

(Адась не адказвае. Павал Няміра адыходзіць)

Адась Гушка (*адзін*). Як ён дрыжыць, гэты чалавек... (*прыціскаецца да сьцяны*).
От так-бы стаяць, пакуль... (*паўза. Зьнімае ранец, распакоўвае, дастае лістоўкі, раскідае іх па акопе*). Акопы доўга пуставаць ня будуць.... Куды-ж цяпер падацца?
(*Шопат*) Трэцяя лінія ў атаку бяжыць... (*Хаваецца ў кут. Апошнім за прабягаючымі салдатамі ідзе афіцэр—малады Ётка. Заўважыў Адася Гушку*).

Ётка. Хто тут астаўся? Хто? Салдат? Баязьлівец? Марш наверх. Марш. Застрэлю. (*Адась выходзіць наперад. Ётка з рэвальвэрам адступае*). Астаўся. Марш наверх і стаяць над акопам і не лажыцца. Над акопам стаяць.

Адась кідаецца наперад, хапіў вінтоўку, выбівае рэвальвэр з Ёткавых рук.

Адась. Рукі ўгару. (*Ётка паднімае рукі*).

Наверсе шум. Стральба заціхае. Немец—Эдвард Лявэр скача ў акоп.

Лявэр. Іх эргэбэ міх. Ды фліэтэ варф іх але вір гінгэн ін ды контратака.

Адась (*да Ёткі*). Што ён гаворыць?

Ётка. Я ня ведаю нямецкай мовы.

Адась. Што ён гаворыць? Жыва. Ну. Закалю.

Ётка. Здаюся ў палон. Вінтоўку я кінуў, як ішлі ў контратаку.

Лявэр (*глядзіць на Ётку*). Офіцір. Офіцір.

Адась. Афіцэр.

Лявэр. Ман ягт міх штэрбэн.

Адась. Што ён кажа?

Ётка. Мяне гоняць уміраць.

Лявэр. Іх віль ніхт штэрбэн. Іх віль ніхт крыген. Іх хабэ ніхт фюр вас цу крыген.

Адась. Ну?

Ётка. Не хачу ваяваць. Не хачу ўміраць. Мне няма за што ваяваць.

Лявэр. Камрад, брудар. Іх Эдуард Левер фон Шлезіен, іх арбайтэтэ алс колен грэбэр фон ярэн ай. Майне кіндэрн хунгерн ецт дорт. Онэ фатэр. Іх фэрдэ ніхт крыген, фюр вэн зол іх крыген? Іх бін Эдуард фон Шлеізен.

Ётка. Таварыш, брат. Я—Эдвар Лявэр, з Сілезіі. Я вугаль капаў, а дзеці мае галодныя бяз бацькі. Я ня буду ваяваць. За каго мне ваяваць? Я—Эдвард Лявэр з Сілезіі.

Адась. Камрад, брудэр. Мы ня будзем ваяваць.

Лявэр. Камрад, брудэр.

Ётка хапіў за штых. Змаганьне за вінтоўку, ў часе якога Адась Гушка пратыкае Ётку штыхам. Адась і Лявэр трасуць адзін аднаго за рукі. Эдвард Лявэр заўважыў раскіданыя лістоўкі, падняў адну, разглядае.

Адась. Праклямацыя.

Лявэр. Праклямацыя?

Адась (*паказвае пальцам у праклямацыю*) Ніхт крыген— кажуць камуністы

Лявэр. Камуніст? Ніхт крыген? Рэвалюцыянэр? Ду рэвалюцыянэр? Іх рэволюцыянэр. Ніхт крыген. Ніхт крыген. Ду рэвалюцыянэр. Іх рэвалюцыянэр.

(Выходзяць з акопа)

Павал Няміра *(Уваходзіць у акоп)*. Адаська, там ня ўседзець, у тых ямах. Там кулі лятаюць. (*Убачыў на зямлі Ётку і аслупянеў*).

Ётка *(енчыць)*. Слухай, ня ідзі. Слухай, вынясі мяне з акопа, я тут кончуся адзін. Здай мяне санітарам. Тут нікога ня будзе. Я тут памру. Я табе белы білет дам. На заўсёды дадому вернешся.

Павал. Ці магу я верыць ваша...

Ётка. Вер. Вер мне.

Павал (*Углядаецца*). Я вас ведаю. Вы наш пан. Мы ў вас зямлю куплялі.

Ётка. Я табе і белы білет дам і зямлі дам.

Павал *(Раптам зьмяніўшыся)*. Глянце на неба. Ружова ад сонца. Я да санітараў вас, о зараз, нейк сьціхла на полі, от зараз. Тут хмызьняк гэтакі за акопамі скрозь— ядловец, беразьняк, крушына... от зараз... от зараз...

Бярэ Ётку на плечы, той стогне. Выносіць. Варочаюцца Адась Гушка і Эдвард Лявэр.

Адась. Салдаты зараз займуць акоп.

Разрываецца гарматны набой. Абодва падаюць раненыя.

Канец першага абразу.

**Другі абраз**

Хата Леапольда Гушкі

Ноч. Маці ляжыць на ложку. Калыска з дзіцём. Леапольд Гушка сьпявае калышучы дзіця.

Леапольд Гушка. Малака ўсяго ў дне. Што гэта даць гэтаму дзіцяці. Яно зараз з голаду зойдзецца.

Маці. Што гэта Марылька ня ідзе гэтат доўга. Дзіцяці як адцуралася. Кідала-б яна нечага гэтую фабрыку ці што. Уцягнуць у гэтую забастоўку.

Леапольд Гушка. Ты сама ня ведаеш, што гаворыш.

Маці. Я ведаю, што гавару. Калі што трэба зрабіць, дык і бяз вас людзі зробяць. Мала Адася папацягалі па астрогах? А што за карысьць? Ад гэтага лепш стала нам жыць, ці што?

Леапольд Гушка. Што ты гаворыш?

Маці. Я ведаю, што гавару. Бачыла я калі прасьветлую гадзіну? Калі я была галодная, дык ня ела. Калі была хворая, дык не лячылася.

Леапольд Гушка. Ты як-бы мяне ўпікаеш? Што я не стараўся, не рабіў, ня біўся, як рыба аб лёд. Калі я плечы разгінаў?

Маці. Я цябе ня ўпікаю. Ты стараўся, ты рабіў, ты плеч не разгінаў...

Леапольд Гушка. Дык што ты ад мяне хочаш?

Маці. Што я табе на гэта скажу. Людзі некаторыя ўмеюць не гараваць гэтак і жыць. За ўсё жыцьцё цярплівасьці маей не хапае. Чалавек ня вытрымае гэтак жыць.

Марылька (*уваходзячы*). Тата, выйдзі на хвілінку ў сенцы (*Выходзяць*)

Маці. Што там яшчэ, божа мой.

Уваходзяць у хату Евель Цывін, Леапольд і Марылька.

Леапольд Гушка. Маці, ты ў меня заўсёды была маладзец. Маці... Гэты чалавек у нас пабудзе некалькі дзён...

Цывін. Халаднавата ў вас у хаце. А каля лесу жывіцё.

Маці. Лес ня наш.

Цывін. Ня наш, гэта праўда. Нас гэты лес ня грэе.

Леапольд Гушка. Пакуль што грэйся.

Марылька. (*Ціха да Евеля Цывіна*). Што будзем рабіць?

Цывін. Няма ніякага спосабу пакінуць фабрыку?

Марылька. Салдаты нікога з фабрыкі ня выпускаюць. Прымушаюць рабіць сілком.

Цывін. Трэба знайсьці спосаб пакінуць фабрыку.

Марылька. А як?

Цывін. Начальства зараз напалохана—будзе бунт. Заўсёды лягчэй нам будзе дагаварыцца з напалоханым начальствам. А скажы мы ім гэтак: фабрыка працуе на вайну, на абарону бацькаўшчыны, вырабляе шынэльнае сукно, дык мы перадумалі, мы будзем працаваць на бацькаўшчыну. Зьнімаем патрабаваньне васьмігадзіннага рабочага дня,—адно—падбаўце нам крыху заробку. Папрацуем дзень, выйдзем з фабрыкі і фабрыка стане. Больш мы туды ня вернемся. За ноч трэба ўсё зрабіць. А раніцою фабрыка згадзіцца працаваць... Трэба сьпяшацца як-небудзь прайсьці на фабрыку... А пайсьці я не магу... (*Думае*).

Марылька. Я пайду.

Цывін. А як пройдзеш?

Марылька. Я адпрасілася да дзіцяці. А як выпускалі мяне, дык нейкі паліцэйскі чын, нібыта пажартаваў: „пабажыся хаця, што сёньня назад прыдзеш“. Я пабажылася. От я і скажу яму, што прышла. Зараз пакармлю дзіця і пайду. На фабрыку мне ўдасца прайсьці. (*Засьпявала, калішучы дзіця.*)

Цывін. (*Гледзячы на матку*).

Холадна, гаварылі вы, у вашай хаце, а я ўсё-ж такі абагрэўся. Цёпла стала. Цэлы дзень быў я сёньня на холадзе. Жару няма ў попеле закурыць?

Марылька. За комінам запалкі павінны ляжаць.

Крэсіва і кнот там недзе.

Леапольд Гушка. (*Уваходзячы*). Нейкі чалавек ідзе праз лес. Проста сюды накіроўваецца.

Цывін. Ну, дык я пайшоў (*Глядзіць у вочы Леапольду Гушку*).

Леапольд Гушка. За хатаю ў мяне пусты хлеўчык. Там крыху саломы ляжыць.

Марылька. (*Евелю Цывіну*). Дык я зараз іду.

Маці. Што гэта за ён? Хто гэта?

Марылька. Гэта Евель Цывін з фабрыкі, яго шукае паліцыя.

Маці. Дык што ён туляецца ад людзей? Што ён забіў каго, ці ўкраў? Чаму ён ні да каго іншага не пайшоў, а да нас. Што ён тут мне казкі расказвае. Нікуды ты ня пойдзеш.

Леапольд Гушка (*да маткі, уваходзячы*). Яны кажуць трэба... (*Махнуўшы рукою, ідзе да Марылькі*).

Яны кажуць, трэба скінуць гадзіны з рабочага дня... Я ім сказаў-бы... Скінце вы ўсё тое, што жывога чалавека у зямлю гняце... Скіньце вы... цара гэтага... Скіньце... скіньце вы... бога гэтага...

Маці (*усхватваецца з ложка*).

Ой... Людзі... Божачка ласкавы (*Кідаецца на калені перад абразамі*). Божа найвышы... За гора людзкое... малюся... (*Усхватваецца на ногі.*) Леапольд, Леапольдзе, адумайся...

Леапольд Гушка. Я ім сказаў-бы—скідайце цара, скідайце і бога. За што гніе ў акопах мой Адаська. За што пакутвае на фронце Павал Няміра?

(Маці рашуча падыходзіць да Леапольда Гушкі.)

Маці. Гэта бог іх паслаў на пакуту.

Леапольд Гушка. Скажы ты мне, хто на маю шыю ярмо ўзлажыў і ня пускае, каб я яго скінуў?

Маці. Гэтак ты ярма і ня скінеш ніколі. Ня злосьцю і ня кулакамі ярмо скідаць трэба.

Леапольд Гушка. А як?

Маці. Сурвіла ўсклаў на цябе ярмо? Усклаў. А як-жа Сурвіла да цябе будзе ласкавейшы, калі ты на яго, як на зьвера глядзіш. Што ты—гаворыш калі з ім па-чалавеччу. Цябе пан з парабкоўства выжыў, а хіба ён мог цябе ня выжыць, калі ён на цябе сказаў—хлоп, а ты яму пажадаў, каб у яго ў жываце хлопала. А каб ты быў інакшы, жыў і жыў-бы. І ня трэба табе было-б няма ведама каго на хлявок хаваць? І вось і яе на гэтую сьцежку пацягнуў.

Павал Няміра (*уваходзячы*). Добры вечар у хату.

Марылька. Павалка... (*Кідаецца да яго*).

Маці. Павал. Сынок.

Леапольд Гушка. Як-жа гэта Павалка? На пабыўку, ці як? Родны ты наш. Павал (*урачыста*). Можна сказаць што зусім.

Марылька. Зусім? Ня можа гэтага быць.

Леапольд Гушка і маці (*разам*). Вайна скончана?

Павал. Для мяне скончана.

Усе. Як гэта?

Павал. Няхай ваюе той, каму трэба.

Леапольд Гушка. Павалка, рэвалюцыя? Салдаты кінулі ваяваць? Я чуў, што робіцца.

Павал (*як-бы ня слухаючы*). Я выратаваўся. Мне пашанцавала.

Усе. А Адась? Ён-жа з табою ў аднэй часьці быў?

Павал. Пяць дзён трэслася зямля. Траслося неба. Трасьліся зоркі. Усё грыміць. Усё канае. Усіх сьмерць агортвае.

(Усе глыбокім стогнам уздыхнулі.)

Сьвітала. На пятыя суткі нам загадалі вылазіць з акопаў на зямлю, у атаку нас гналі. Вылезеш—сьмерць табе. Астанешся—або застрэляць, або ня ўбачаць. І я застаўся. Бачу і Адась са мною астаўся.

Усе. Дзе-ж ён?

Марылька. Павалка, цяпер-жа разам будзем заўсёды, Павалка, ідзі, глянь на сваё дзіця. Ты яшчэ яго ня бачыў.

Павал. Дзіця, якое дзіця?... Грыміць усё,.. Стогне, енчыць. Новыя салдаты бягуць акопам. Я да зямлі прыліп, заплюшчыў вочы... Расьплюшчыў я вочы, бачу—пуста, ціха. Адася няма...

Усе. Дзе-ж ён?

Павал. Толькі адзін на ўвесь акоп афіцэр Уладыслаў Ётка, нашага пана сын, канае пад маімі нагамі, ранены ў жывот. Ён глядзіць мне ў вочы, гэтак пакорліва... Ну, як жывёла глядзіць, як яе рэжуць. Так просіць ён мяне. Я яго паслухаў. Я яго ўзяў на плечы і панёс да санітараў. Каб ня я, ён там кончыўся-б. Я яго нёс можа вёрст дзесяць. Разьвіднела, а я яго нясу... Сонца ўзышло—я яго нясу... дзень у сілу ўвабраўся—я яго нясу... нясу, нясу... прынёс да санітараў.., І за гэта ён мне праз свайго бацьку—белы білет і... паўвалокі поля... белы білет і... паўвалокі поля... (*Доўгая напружаная пауза*)

Я шмат прайшоў па зямлі. Я ішоў ад санітараў да цягніка, ад цягніка да гораду, ад гораду да Ёткавага маёнтку ...Сьнег скрозь пад нагамі рыпіць. Кусты стаяць... Дрэвы маўчаць. У лесе голая зямля бяз сьнегу, голкі хвойныя... Я смалу нюхаў. Здаецца, што грыбы пахлі, папараць пахла, трава пахла, зямля пахла мокрая ад дажджоў, з-пад плуга, з-пад плуга... (*Напружанае маўчаньне*). Вайна недзе далёка асталася. Мне яна скончана. Яе няма больш для мяне. Няхай сабе там як сабе хочуць і хто сабе хоча і хто ня хоча—ваююць. Няхай ваююць, няхай хоць галовамі ў земляную акопную сьцяну... Няма больш вайны, мне, фронту мне, акопаў больш няма. Хай сабе ўсе там як хочуць, Марылька, на паўвалоцы зямлі будзем мы цяпер з табою. Больш нам нікога і нічога ня трэба, Марылька.

Марылька. Што-ж мы рабіць будзем?

Павал. Жыць.

Марылька. А Адась?

Леапольд Гушка. А ўсё, што з Адасём? Поўны акопы людзей.

Маці. Табе мала аднэй радасьці?

Павал. Мне Адася шкода. А ўсе—што я пра ўсіх буду думаць. Што я каму памагу. Кожны чалавек на сьвеце выкіроўваецца па свойму.

Марылька. А я зараз на фабрыку пайду. От зараз, от.

Павал. Чаго цяпер, у начы?

Маці. Марылька. Цяпер нікуды.

Марылька. А без мяне забастоўкі ня зробяць.

Павал. Дык на што цяпер табе дбаць пра гэта? Можа раней і ня было табе іншай дарогі, а цяпер пасьля гэткага шчасьця мне. Цяпер мы самі сабе паны будзем. Заўтра-ж я мець буду паўвалокі зямлі.

Марылька. Ну дык што?

Павал. Сядзі дома. Крышка ўсім забастоўкам. Забастоўкі—гэта неспакой, гэта—калі ніякай рады няма. А цяпер нам можна спакойна жыць.

Марылька. Пайду.

Павал. Ня пойдзеш.

Марылька. Пайду.

Павал. Ня пойдзеш.

Леапольд Гушка. Пойдзе... і я пайду...

Маці. Не. Марыльцы больш ня трэба ісьці. Зямлі ня купляўшы, яна будзе на вялікай зямлі сядзець.

Марылька. А вы з бацькам? А Адась? А ўсе? А вайна? А акопы? А сьмерць?

Павал. Няма для вас вайны.

Марылька. Ёсьць вайна.

Леапольд Гушка. І сьмерць ёсьць.. І акопы ёсьць. І ярмо на шыі ёсьць.
І жылы на чалавеку рвуцца. І пятля на шыю накладаецца. І шыбеніца над галавою стаіць... Я казаў—скіньце вы ўсё тое, што жывога чалавека ў зямлю ґняце... Скіньце вы... (*маўчаньне*)... цара гэтага... Скіньце вы...

Маці. О-о-о... бога не чапай.

Леапольд Гушка. Бога гэта... Скіньце вы...

Павал. Няхай скідаюць.

Леапольд Гушка. А мы?

Павал. А я не на вайне больш. Я ня парабак больш... Я не...

Леапольд Гушка. Марыльцы зараз ісьці трэба.

Павал. Ня пойдзе.

Марылька. Пайду (*устае*).

Павал. Ня пойдзеш.

Леапольд Гушка (*хапае яго за плечы*). Ідзі з гэтай хаты на вёску, да свайго бацькі.

Маці. Марылька, чуеш. Ён хату раскідае. Ён зямлю раскідае. Ён губіць усіх.

Павал. Марылька, хадзем.

Марылька. Мне ў іншы бок.

Павал. Ого. У мяне сіла яшчэ ёсьць.

Леапольд Гушка. Ідзі з гэтай хаты. (*Бярэ Паўла за плечы і кідае яго да дзьвярэй. Дзьверы адчыняюцца, уваходзіць Мешчанчук*).

Мешчанчук. Хе-хе-хе... Добры вечар.

Леапольд Гушка. Добры вечар.

Мешчанчук. Холад які на дварэ. (*Усе маўчаць*). Рукі мае скарчанелі, без рукавіц выбраўся... фурманак чакаю... Наймаў хурманкі заўтра сена войску весьці.

Леапольд Гушка. Дык чаго вы да нас. (*Падазронна аглядае Мешчанчука*).

Мешчанчук. Можа ў фурманку паедзеце?

Леапольд Гушка. У мяне няма каня. Нічога ў мяне няма, чалавеча, няма.

Мешчанчук. А каб быў у вас конь, паехалі-б, зарабілі... (*Пауза*). Вайна ўсім не дае жыць. Калі скончыцца вайна, немцаў паб'ём, народ тады пачне лепш жыць.

Леапольд Гушка. Усялякія ёсьць і немцы, адзін жыве добра, а другі кепска.

Мешчанчук. Ёсьць, вядома, народ ня роўны... А ў вас быў конь... Хлеў у вас за хатаю?.. Самі на гаспадарцы жывяцё?

Леапольд Гушка. Так, на добрай гаспадарцы.

Мешчанчук. Сказаць праўду, дык я не адзін. Тут яшчэ мой таварыш, таксама наконт фурманак ходзіць. Я думаў—можа ён да вас зайшоў. Я яго шукаю. Разам у горад ісьці—мы самі з гораду. Не заходзіў да вас?

Леапольд Гушка і Марылька. Не.

Мешчанчук. Ня было, значыцца, нікога у вас? Чорт яго цяпер на дарогах:.. Уночы цяпер страшна дзе ў полі на дарозе. Народ усялякі цяпер... На тым тыдні, ня чулі, каля самага гораду чалавека зарэзалі, забралі грошы і каня... Нікога ў вас ня было?

Леапольд Гушка. Не.

Мешчанчук. А то было яшчэ раз гэтак, ня вельмі далёка адсюль, так, вёрст за дваццаць на гасьцінцы. Залез гад чалавек у хлеў на салому, а той чалавек богу душой вінен. Ну і знайшлі. Аж, як выявілася, дык гэта жыд, нямецкі шпіён. Падгаварваў людзей, каб цара скідалі, каб не ваявалі, каб забастоўкі ўсялякія. Аднаго злавілі ў хляве ў саломе, другога ў склепе. Чалавек сам прызнаўся: ня ведаў, кажа я, хто гэта такі. Мяне, кажа, злачынцы забіць зьбіраюцца. Мне абы пераначаваць у вас у склепе. Я, кажа, упусьціў. Паспагадаваў. Ну, тых забралі, а чалавеку таму нічога. Чалавек ня ведаў, пусьціў, маючы добрае сэрца. Таго чалавека начальства і пальцам не кранула, раз ён прызнаўся сказаў дзе гады хаваюцца... Ну, рукі мае крыху абагрэліся. (*Пауза*). *Марылька над дзіцём сьпявае калыханку*). А мароз трашчыць... Я ішоў паўз лес... Тут недзе, думаю сабе, павінен быць мой чалавек, што разам са мной фурманак шукае. На дварэ ціха... Чуваць было, як у гарадку на ратушы гадзіны вызваньваліся... Дзінь-бом... Дзінь-бом... Дзінь-бом... Іду, бачу сьлед нейкі пад вашу хату. Я па сьлядох проста іду. Сюды, думаю, зайшоў мой чалавек. (*Мацней—ня іначай сюды зайшоў ён думаю*)... (*Падыходзіць да маці і есьць яе позіркам. Марылька апранаецца*).

Маці. Марылька, ня ідзі. (*Да Мешчанчука*). У нас, у хляве за хатай схаваўся.

Марылька. О-о-о...

Павал. Што? Хто?

Мешчанчук (*даў сьвісток Ускочылі паліцэйскія*). Нікога з хаты ня выпускаць (*Выходзіць*).

Маці. Чаму ня выпускаць нікога з хаты?

Паліцэйскі. Стой на месцы, не варушыся.

Леапольд Гушка. Ух, ты...

Маці. Што? Ты гэтак сям'ю ратуеш?

Марылька. Маці... А-а-а... (*Нагінаецца над калыскай*).

Паліцэйскі. Ціха вы. З месца ня кратацца. (*Уваходзіць Мешчанчук. Паліцэйскі ўводзіць Эвеля Цывіна*).

Мешчанчук. Ну?

Евель Цывін. Тытунь недзе з кішэніываліўся. Закурыць няма чаго.

Мешчанчук. Ты што—грэўся ў саломе?

Цывін. Грэўся.

Мешчанчук. Нагрэўся?

Цывін. Не. Чалавек павінен грэцца ў хаце. А даводзіцца па хлявох. У акопах людзі грэюцца. У чыстым полі пад гараматамі.

Мешчанчук. Ты змоўкні. Хто тут з табою яшчэ хаваецца? Дзе?

Цывін. Я хаваўся адзін.

Мешчанчук. (*Да Леапольда Гушкі*). Ну, гавары.

Леапольд Гушка. Больш я нікога не хаваў.

Мешчанчук. Апранайся.

Маці. Ён ня вінен. Ён не хаваў. Гэты сам схаваўся.

Леапольд Гушка. Я схаваў (*да жонкі.*) Ух ты!

Мешчанчук. Дзе больш?

Леапольд Гушка. Шукай. Ты з гэтага хлеб ясі?

Маці. Невінаваты. Ня вінны. Бярэце гэтага жыда, гэтага шпіёна бярэце, нас не чапайце.

Цывін. Мяне бяз вашай просьбы возьмуць.

Мешчанчук (*да Паўла Няміры*). А ты хто?

Павал. Салдат. Толькі што на пабыўку прышоў. От толькі што ў хату ўвайшоў. Я тут нічога ня ведаю.

Марылька. Ён ня вінны, гэта анёлак чысты.

Маці. Леапольдзе. Леапольдзе. Зямля раскідаецца, шчасьце ўцякае. Божа літасьцівы.

Мешчанчук. Марш. (*Усе выходзяць апроч маці і Паўла Няміры*).

Маці. Ня вінны. Ня вінны. (*Хапае Мешчанчука за нагу, той піхае яе.*)

Леапольд Гушка (*да маткі*). Чаго крычыш. Паўвалоку замлі маеш. (*Вышлі*).

Канец абразу.

### Трэці абраз

Пакой у жандарскім кіраўніцтве. За сталом жандармскі палкоўнік. Перад сталом стаіць Леапольд Гушка. Палкоўнік напявае: „Марш вперед, труба зовет".

Палкоўнік. Ты ўсё гаворыш, што табе цяжка было жыць. Больш ты нічога не гаворыш. Апошні раз...

Леапольд Гушка. Мне цяжка было жыць.

Палкоўнік. Ты хацеў яшчэ цяжэй. Сам у турму палез.

Леапольд Гушка. З самых малых дзён сваіх я з турмы ніколі ня выходзіў.

Палкоўнік. Прапаведнік. Ты хаваў Эвеля Цывіна?

Леапольд Гушка. Хаваў.

Палкоўнік. Так-с. Пашто-ж ты яго хаваў?

Леапольд Гушка. Пытайцеся ў яго самога.

Палкоўнік. А я хачу, каб ты сказаў... Ну... Маўчыш... ну... (*Сьпявае*: „Марш вперед“ і г. д.) Мы можам і мякка гаварыць... Раскажы пра Эвеля Цывіна ўсё... Цябе караць ня будзем.

Леапольд Гушка. А хіба вам цяжка ў яго самога папытаць.

Палкоўнік. Ты просты чалавек. Ты гора многа ведаў. Ты можаш людзей любіць... Так, так—людзей любіць... А для гэтага трэба зьнішчыць усіх бунтаўшчыкоў, якія сеюць неспакой, трывогу (*Сьпявае*)... кроў... агонь. Як чалавек кажу табе,—мне цябе шкода.

Леапольд Гушка. Я маю практыку: чым больш на мне жылы рвалі, тым больш мяне шкадавалі. А праз трывогу і кроў—дык кроў льлецца на вайне, а тыя, пра каго вы гаворыце, кажуць—ня трэба ні крыві, ні вайны. Хто больш дбае пра дабро людзям—вы, ці яны?

Палкоўнік. Гэта Эвель Цывін так гаворыць?

Леапольд Гушка. А што Эвель Цывін. Гэта я гавару.

Палкоўнік. Чаго ты хочаш?

Леапольд Гушка. Хачу, каб чалавек ня рваў на сабе жылы, ня мучыўся, не гараваў, каб яму сонца ясна сьвяціла, каб на яго ніякі гад ярма не ўскладаў і ня ехаў на ім. Каб цара скінулі, каб бога скінулі... (*пауза*). Вас хачу на шыбеніцы бачыць... Страляйце мяне, шліце мяне на катаргу... Я хаваў Эвеля Цывіна... Я ведаю, што за мяжой жыве гэтакі... вялікі... настаўнік... Гэтакі вялікі рэвалюцыянэр... Першы дэмакрат—Ленін... Ён за ўсіх, хто пакрыўджаны, хто ў ярме ходзіць.

Палкоўнік. Цывін старшыня падпольнага камітэту?

Леапольд Гушка. Ня ведаю. Я толькі ведаю, што на гарадох забастоўкі, што салдаты з фронту ўцякаюць, што рэвалюцыя блізка...

Палкоўнік. У камэру.., (*Гушку павёў наглядчык. Уводзіць Эвеля Цывіна*). Ты старшыня падпольнага камітэту? (*Эвель Цывін маўчыць.*) Хто больш з табой працаваў? Я цябе магу прымусіць гаварыць.

Цывін. Ня думаю, каб мой голас вам быў прыемны.

Палкоўнік. Хто кіруе забастоўкай на фабрыцы?

Цывін. Хто кіруе забастоўкай нз фабрыцы? Кіраўнікі забастоўкі.

Палкоўнік. Маўчаць! (*Б'е яго. Наглядчык намерваецца біць*). Адставіць!

Цывін. Я казаў адразу, што мой голас ня лішне прыемны.

Палкоўнік. Ты ведаеш, што табе пагражае... Тут, блізка фронту...

Цывін. Я ведаю. Я ведаю таксама, што вам большая пагроза, чым мне... Вы-ж і салдат баіцёся. Вы чуеце рэвалюцыю.

Палкоўнік. Цябе хаваў Гушка?

Цывін. Не, я сам хаваўся.

Палкоўнік. Хлусіш (*Б'е яго*) Адставіць... Прывесьці Гушку. (*Уводзіць Гушчу.*) Ты сам схаваў яго?

Леапольд Гушка. Хаваў.

Цывін. Сам прызнаешся?

Леапольд Гушка. Эвелька, родны... Сам... Як вялі мяне калідорам, мне з камэры гукнулі, што рэвалюцыя блізка, салдаты з фронту едуць сюды рэвалюцыю рабіць

Палкоўнік. Арыштаваных назад. (*Абодвух павялі. Палкоўнік цісьне кнопку у стале. Уваходзіць Мешчанчук*). Што новага?

Мешчанчук. Так што нічога. Не. Навіны ёсьць. Салдаты з фронту ўцяклі. Повен горад. Забастоўшчыкі над фабрыкай выставілі чырвоны сьцяг. Салдаты, што сталі каля фабрыкі, узбунтаваліся супроць афіцэраў. (*За дзьвярыма грукат, галасы. Урываюцца салдаты*).

Адась (*убегшы*) Усіх арыштаваных на волю.

Цывін. Няхай жыве рэвалюцыя!

Салдаты. Ура!

Леапольд Гушка. Браточкі. Родныя. Адаська. Эвелька. Рэвалюцыя. (*Зрывае ў палкоўніка эпалеты, б'е імі па твары яго*).

Салдаты. Ура...

Музыка

З А С Л О Н А.

# СУСТРЭЧА ЧЛЕНА РВС БВА т. АРОНШТАМА З РАБОТНІКАМІ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА БССР.

Тав. Аронштом—Таварышы! Пагутарыць з вамі я зьбіраўся даўно, яшчэ калі ў мінулым годзе ўлетку прыяжджаў да нас т. Бэндэ.

У БВА, у той вялізарнай рабоце, якую мы праводзім па палітычным і агульнаадукацыйным выхаваньні мас, мы не сустракаем належнага водгуку, калі можна так сказаць, сярод культурных сіл нашай Савецкай Беларусі. Не сустракаем належнага водгуку, як сярод літаратурных сіл, мастацкіх сіл, так і сярод работнікаў музыкі і выяўленчага мастацтва.

Асабіста я ня зусім у курсе спраў разьвіцьця літаратурна-мастацкага жыцьця ў БССР, як і ва ўсім Савецкім саюзе, таму што па характары сваёй асноўнай работы не заўсёды даводзіцца быць у курсе справы. Але ў адным я ў курсе справы. Добра ведаю наступнае: ваенная тэматыка ня мае належнага адлюстраваньня ні ў літаратуры, ні ў музыцы, ні ў песьні, ні ў выяўленчым мастацтве.

Перш чым перайсьці да таго, дзе-ж прычыны гэтага, я хацеў-бы сказаць некалькі слоў наконт самой ваеннай тэматыкі.

Зразумела было-б няправільна, калі-б я казаў аб тым, што наогул няма ў літаратуры адлюстраваньня Чырвонай арміі. Адлюстраваньне ёсьць, але між гэтым адлюстраваньнем і значэньнем Беларусі, як прымежнай рэспублікі, існуе вялікая дыспрапорцыя.

Адлюстраваньне ў беларускай літаратуры, у беларускай музыцы, ва ўсім тым, што мы называем культурай, надзвычайна адстае ад тэй ролі, якую адыгрывае Беларусь, як прымежная рэспубліка нашага Савецкага саюзу.

Ці ёсьць якое-небудзь апраўданьне гэтаму адставаньню? Ніякага!

Пачну я перш за ўсё з адлюстраваньня нашага ваеннага жыцьця, нашай ваеннай тэматыкі па лініі літаратуры. Што зьяўляецца асабліва паказальным і асабліва характэрным? А вось што! Мы, у прыватнасьці, ваенныя людзі, якія як-бы няпрыкметна для саміх сябе перайшлі ад пэрыяду падпольля да пэрыяду легальнага, мы нават як-бы не заўважылі, дзе ў нас скончыўся адзін пэрыяд і дзе пачаўся другі. Мы таксама няпрыкметна перайшлі ад пэрыяду грамадзянскай вайны да пэрыяду „мірнага" будаўніцтва. Усё гэта прайшло так няпрыкметна для нас—непасрэдных удзельнікаў, што мы няпрыкметна вышлі з таго стану, калі наша армія была прыкладам адсталасьці, калі мы, Чырвоная армія—думка пра нас як аб тэхнічна адсталых, была хадзячай думкай ва ўсім сьвеце, мы няпрыкметна перайшлі да таго пэрыяду, калі зараз па сваім тэхнічным стане Чырвоная армія зусім законна зьяўляецца арміяй, якая стаіць у адным радзе з перадавымі арміямі.

Усё гэта прайшло як-бы няпрыкметна для нас, непасрэдных удзельнікаў гэтай работы і дасягненьняў, якія куплены цаною вялікага напружаньня і працы. І вось калі нам, людзям, што пастаўлены партыяй на пэўны вучастак работы, калі нам даводзіцца часам з вышыні сучаснага стану азірнуцца назад, дык, таварышы, як ні кажыце—дзіву даешся на веліч праробленай работы.

Я, актыўны ўдзельнік грамадзянскай вайны, я кажу вам зусім адкрыта—я ні разу ў часе вайны ня бачыў ніводнага танка, а зараз у нас іх тысячы. З за час грамадзянскай вайны бачыў можа толькі два разы авіяцыю ў дзеяньні, а зараз у авіяцыі аэрапляны налічваюцца сотнямі...

І вось загрузнуўшы неяк цалкам (калі наогул гэты выраз падыходзіць) у практычнай штодзеннай рабоце, мы ня здолелі заўважыць, як адбыўся гэты пералом, мы ня здолелі адлюстраваць усяго гэтага працэсу нарастаньня.

А між тым, дзіўным здаецца, што для людзей, якія стаяць крыху ўбаку ад гэтай часткі работы, для вас, людзей, чыя работа ў аснове сваёй ня можа праходзіць без найвялікшага энтузыязму, без валоданьня словам—як ні дзіўна, але для вас гэты пэрыяд прайшоў зусім незаўважаным.

Таварышы, а што можа даць больш пафасу, як не пераход ад тэй арміі, калі нашы кавалерысты замест сёдлаў

калі падушкі, перавязваючы іх вяроўкамі, калі нашы кавалерысты былі ўзброены шаблямі, пачынаючы ад шабляў часоў Ачакова і пакарэньня Крыму“ і канчаючы шаблямі часоў сусьветнай вайны—да пэрыяду, калі нашы войскі насычаны тэхнікай? Што як ня гэтае можа даць больш пафасу людзям, якія заклікаць на адзін з найвялікшых вучасткаў нашага змаганьня, за сацыялістычнае будаўніцтва?

Калі раней да першай пяцігодкі ў нашай акрузе мы мелі толькі адзінкамі, проста на паказ, тэхнічныя сродкі змаганьня, тэхніку нашай краіны, дык зараз іншае становішча. Вы гэтага не заўважваеце, ня гледзячы на тое, што бываеце на манэўрах, у часьцях.

Але-ж, акрамя таго, акрамя нашай ролі, як чыста ваеннай, мы іграем калясальную ролю ў справе соцыялістычнага будаўніцтва наогул. Калі мы гады тры-чатыры таму назад рыхтавалі трактарыстаў для нашай краіны, якая з сялянскага коніка, з сялянскага воза перасядае зараз на трактар, калі мы рыхтавалі гэтых трактарыстаў тады саматужна, усімі праўдамі і няпраўдамі здабываючы дзе-небудзь, які-небудзь зламаны, пабіты трактар для таго, каб навучыць людзей трактарнай справе, дык зараз у парадку натуральнага росту мы ўжо выпушчаем для нашай краіны тысячы падрыхтаваных, высокакваліфікаваных, як сьлед навучаных трактарыстаў на аснове нашай тэхнікі. Хіба гэта ня тэма? Хіба гэта не матэрыял для таго, каб адлюстраваць тую эпоху у якой мы з вамі жывём?

Я неяк гутарыў з т. Бэндэ. Гэта было яшчэ ў мінулым годзе. Мы гутарылі пра работу нашых пісьменьнікаў. Прычым тады ў мяне мільганула адна думка. Я ведаю, што частка з вас была ў нас у лягерах, а некаторыя з іх, магчыма, і прысутнічаюць тут. І вось, магчыма, таварышы і ведаюць, што раней дзе-ні-дзе быў літаральна нярухомы лес, а зараз нібы па загаду рукі, вырас цэлы горад палатак. Прычым ня толькі горад палатак, а ў гэтым горадзе палатак адбываецца зараз вялізарная работа над перапрацоўкай адсталых часта малапісьменных і нават няпісьменных сялян. Гэтыя сяляне, пабыўшы 2-3 месяцы ў нашым горадзе палатак, выходзяць адтуль зусім сьвядомымі, узрослымі, палітычна пісьменнымі, актыўнымі будаўнікамі сацыялістычнай гаспадаркі.

Хіба гэта ня тэма для нашых пісьменьнікаў?

І вось у мяне ўзьнікла адно пытаньне і мне хочацца даць адказ на гэтае пытаньне ў вашай прысутнасьці. Вось калі нашыя таварышы пішуць пра Чырвоную армію, дык часьцей за ўсё ў іх атрымліваецца, прабачце за рэзкасьць, нейкая сусальная салодкасьць, атрымліваюцца такія дадатныя тыпы, ня якіх проста няпрыемна глядзець. Чым гэта растлумачыць?

Мне ў гэтым годзе давялося быць у водпуску разам з т. Варашылавым. Тав. Варашылаў, як вы самі ведаеце былы сьлесар, тав. Варашылаў страшэнна любіць чытаць, страшэнна любіць літаратуру, ведае яе і чытае дужа многа, чытае літаральна з захапленьнем творы Горкага. Я быў у яго на гутарцы з таленавітымі драматургамі, вядомымі драматургамі, чые п'есы і тут ставяць. І вось таварыш Варашылаў паставіў ім пытаньне: „Вы—нашы лепшыя драматургі, але якая розьніца між вамі і Шэкспірам? Шэкспір пісаў так, як ён разумее. Ён як бачыць, так і піша, валодаючы найбагатшай мовай і вобразамі. А вы як пішаце? Некаторыя з вас пішуць так: як-бы мне напісаць такім чынам каб быць пралетарскім драматургам. І вось дзякуючы гэтаму, вы сядаеце гучна ў лужу. Што-ж тут атрымліваецца? Ад Шэкспіра вы адстаеце па маляўнічасьці, а ад пралетарскага пісьменьніка адстаеце таму, што няправільна разумееце пралетарскае асяродзьдзе“.

Вось і ў мяне ствараецца такое ўражаньне, што па пытаньнях ваеннай тэматыкі вы адстаеце таму, што зусім ня ведаеце Чырвоную армію. Возьмем, напрыклад, тыя паездкі, якія ў вас былі, а я бачыў некаторых з вас і ў авіяцыйнай брыгадзе і ў другіх частках, але гэтыя паездкі даюць вам вельмі мала таму, што вы ня бачыце „ізюмінкі“ ў гэтай справе. Вы за цэлым радам дробязяй губляеце асноўнае, губляеце галоўнае. Вы ня ведаеце нас і таму вам цяжка пісаць на гэтую тэму.

Але-ж калі казаць проста, дык я ўпэўнены, што процантаў 50 з вас зрабіліся-пісьменьнікамі воляй рэвалюцыі. Ня было-б рэвалюцыі—ня было-б і вас. Я ўпэўнены, што ў значнай частцы вас адбываецца той-жа працэс, які адбываецца і сярод нашых ваенкораў. Мы маем у Чырвонай арміі вялікую колькасьць ваенкораў. Гэта людзі, а сярод іх ёсьць

таленавітыя, гэтыя людзі, якія ня так валодаюць мовай, ня так валодаюць словам, як вы, але пішуць пра тое, што яны бачаць. У гэтым іхняя перавага над вамі. Яны жывуць гэтым, яны бачаць, крытыкуюць, кажуць сваю думку, яны будуюць жыцьцё.

І таму я проста кажу, тое, што ў вас слаба адлюстравана ваенная тэматыка, тое, што ў вас слаба адлюстравана ваеннае жыцьцё, жыцьцё Чырвонай арміі, пытаньні абароны краіны,—тлумачыцца перш за ўсё тым, што вы, па маёй глыбокай упэўненасьці, дужа слаба нас ведаеце, і нельга сказаць, што ў вас асабліва моцныя спробы пазнаёміцца з намі бліжэй. А ў нас адбываюцца вельмі цікавыя падзеі і мне думаецца, што наступнае пакаленьне пісьменьнікаў будзе зайздросьціць вам, людзям, якія жылі ў такі цікавы час.

У гэтым найвялікшы прабел нашай літаратуры.

Тое-ж можна сказаць пра таварышоў, якія працуюць на іншых вучастках мастацкага фронту: ня бачаць яны таго новага, таго цікавага, што адбываецца перад іх вачыма, слаба яны ведаюць нас, Чырвоную армію.

Некалькі слоў аб нашай чырвонаармейскай песьні.

Я, калі дамаўляўся з ваеннымі прадстаўнікамі, што маюць сувязь з мастацтвам, я зусім сьвядома казаў—ёсьць у Менску т. Александроўская, якая, на маю думку, вельмі добра пяе. Чаму я прасіў, каб яна прышла і вельмі задаволены, што яна тут прысутнічае,—я проста хацеў-бы ў вашай прысутнасьці паставіць ёй рад пытаньняў. У нас наша чырвонаармейская песьня ня мае распаўсюджваньня.

Я неяк на сходзе рабочых быў сьведкай, як артыстка Цэнтральнага дому Чырвонай арміі сьпявала ў прысутнасьці аўдыторыі песьню чырвоных партызан. Каб вы бачылі, што рабілася ў залі. Артыстку, літаральна, пакуль не ахрыпла прымушалі сьпяваць гэтую песьню.

Ці ведаеце вы, таварышы, пра тое, што ў Беларусі стаіць 27-я дывізія, якая пакрыла сябе славаю ў часы грамадзянскай вайны. Дывізія мае сваю песьню. Я вам прывяду проста адзін радок з гэтай песьні і вы ўдумайцеся ў гэтыя словы, а словы дужа простыя:

„У Енисея врагов мы білі.
В широкой Висле коней поили“.

Хто ведае гэтую песьню? Чаму гэтую песьню мы не пашыраем на вёсцы, на заводах? Чаму мы не зрабілі гэтай песьні народнай? Таму што нашы сьпевакі ня цікавяцца такімі песьнямі ці, ва ўсякім выпадку мала цікавяцца.

Я прасіў аднаго таварыша, каб ён тут прысутнічаў, я ня ведаю, ці прысутнічае ён, гэта т. Гідгарц. Музыкі, песьні чырвонаармейскае у нас няма! Я ведаю, што т. Гідгарц мае дачыненьне да музыкі. Няма, таварышы, песьні чырвонаармейскай! Чаму яе не стварыць, аб'яднаўшыся кампазытарам і паэтам?! Дайце нам такую песьню, каб ад маладых галасоў, якія будуць яе сьпяваць,—зьвінела наша казарма.

Тут стаіць ваша Беларуская дывізія, (я менавіта падкрэсьліваю—ваша дывізія, Беларуская дывізія), якая мае найбагатшыя баявыя традыцыі. Хіба нельга скласьці песьню для 2-й Беларускай дывізіі? Можна! Чаму гэтага няма? Стаіце ў баку!

І вось гэта асноўнае пытаньне, пытаньне аб тым, што вы стаіце ў баку, пытаньне аб тым, што вы ня бачыце тэмы ў гэтым надзвычайна прыгожым, складаным і бурным жыцьці, якім у нас жыве чырвонаармеец, жыве Чырвоная армія ў нашай краіне—у гэтым ваша трагедыя.

Ці ёсьць выйсьце з гэтага? Ёсьць! Якое выйсьце?

Я зараз, у даным выпадку ад імя Чырвонай арміі, прад'яўляю вам пэўныя патрабаваньні. Давайце прапановы, што вам патрэбна для таго, каб пасунуць гэтую справу, давайце сустрэчныя прэтэнзіі! У войскі мы вас пушчаем ня толькі на манэўры, але і на штодзённую вучобу, я часамі сустракаю пісьменьнікаў у нас у часьцях.

Падумайце над гэтым, вазьміце ваенных работнікаў, якія ведаюць ваенную справу, няхай яны раскажуць, якімі пытаньнямі мы жывем, над чым працуем, як ідзе ваенная думка. Калі ласка, мы гэта вам дамо! Але-ж асноўнае ня ў гэтым, асноўнае заключаецца ў тым, што вы павінны нас вывучыць. Мы даём вам усе магчымасьці нас вывучыць. Але мала толькі вывучыць, вам трэба неяк дапамагчы і нам у гэтых адносінах.

Вось сёньня ў нас будзе ўрачысты вечар, прысьвечаны XV гадавіне Чырвонай арміі. Мы далі таварышом пэўнае заданьне. На гэтым чырвонаармейскім вечары яны павінны будуць паказаць чырвонаармейскую самадзейнасьць. Што

з гэтага атрымаецца, мне цяжка зараз сказаць. Але ў нас, ва ўсякім разе, людзі працуюць у гэтым кірунку і мы паглядзім, якія будуць вынікі. Але, ня ведеючы, якія будуць гэтыя вынікі, я загадзя магу сказаць, што якімі-б добрымі яны ня былі, якімі-б кепскімі яны ня былі, дык ва ўсякім разе яны маглі-б быць у тысячу разоў лепшымі, калі-б у гэтым кірунку рабілі дапамогу нашы культурныя сілы.

Наш ваенкор пісаў-бы ў тысячу разоў пісьменьней, у тысячу разоў лепш, каб яму была зроблена некаторая дапамога, некаторая падтрымка. Ім-жа не хапае толькі пісьменнасьці, нават ня ў граматычным сэнсе, ім не хапае ўменьня выказваць, а бачыць—у іх на гэта зоркае вока! Гэтаму і вам трэба было-б у іх павучыцца, я хачу сказаць гэтым, як яны зорка могуць заўважыць тое асноўнае, на што трэба зьвярнуць увагу. І вось вам, бадай, таксама ня шкодзіла-б у гэтых адносінах у іх павучыцца. Гэта вам здорава дапамагло-б.

Трэба дапамагчы ваенкорам, каб яны тое, што бачаць, маглі добра адлюстраваць, паказаць.

Ня думайце, што гэта лёгкая задача. Ад аднаго наведваньня казармы гэтага не атрымаецца, ад двух-трох наведваньняў таксама не атрымаецца. Тут патрэбна вялікая доўгая работа, прычым работа без барабаннага бою, бяз сьцягаў, без якога-б там ні было шуму, а штодзённая работа ў ленінскім кутку, работа няпрыкметная з пункту гледжаньня кідкага ў вочы эфэкту, работа разьлічаная на вынік. Гэта вельмі важная работа, цікавая работа, работа выключнага захапленьня. А між тым да гэтага часу ў гэтай справе няма таго, што нам патрэбна.

Вось, прыкладна, тыя думкі, якія я хацеў выказаць перад вамі. Я лічу, што ў асноўным тое, што трэба было вам сказаць у гэтым кірунку, асабліва для першай сустрэчы, мною сказана. Можна, вядома, многа гаварыць. Мы зараз навучыліся многа гаварыць і закатваць такія прамовы, што цягнуцца некалькі гадзін. Мы на гэтай справе, як кажуць, „насабачыліся“, але ня ў гэтым справа. Справа ў тым, каб на працягу некалькіх хвілін сказаць тое, што неабходна.

Я ня ведаю, ці разьлічваў прэзыдыум Аргкамітэту на тое, што таварышы абмяняюцца думкамі, але мой зэклік зводзіцца да таго, што я тут сказаў. Другога сказаць пакуль што не магу. (Гучныя і працяжныя воплескі).

## Адказ т. Аронштама на пытаньні прысутных Аб пастаноўках ў нашых тэатрах.

На вялікі жаль, я ужо 8-10 месяцаў ня быў тут, у Менскім тэатры, але павінен сказаць, што звычайна я рэгулярна наведваю тэатр і бачыў амаль усе пастаноўкі. Я не сумняваюся ў тым, што за гэты час мы вырасьлі. Але што тут кідаецца ў вочы? Няма жыцьця! Калі, напрыклад, паказваюць паседжаньне ячэйкі, дык ужо вельмі добрадзейным паказваюць сакратара ячэйкі, быццам гэта не чалавек, а істота, надзеленая вышэйшымі дадатнымі якасьцямі. Проста атрымліваецца хадзячая схэма, хадзячая рэзалюцыя.

Я некалькі разоў бачыў пастаноўкі яўрэйскага тэатру, у прыватнасьці некалькі разоў бачыў п'есу „Гірш Лекерт". Вось чамусьці тып рэвалюцыянэра атрымліваецца так: калі гэта жанчына, дык гэта сіняя панчошка пэрыяду барацьбы зямлявольцаў, калі мужчына—дык гэта нейкі нігіліст часоў Нячаева, ня сучасны чалавек, няма таго бальшавіка, няма таго пакаленьня людзей, якія маюць свае рысы і адмоўныя і дадатныя сваёй эпохі. Мы-ж таксама не зьявіліся аднекуль зьне. Атрымліваецца адцягнена, ня жыцьцёва, а таму і сумна.

Другое пытаньне пра „Міжбур'е". Бачыў я „Міжбур'е" ў некалькіх пастаноўках: у Маскве, Ленінградзе, у Смаленску, у Менску я ня бачыў. Як там паказаны тыпы? По мойму, калі ўзяць гэроя п'есы самога Дыбава—тып узят бліскучы, мы такіх людзей ведаем па грамадзянскай вайне. Але калі ўзяць сакратара калектыву—хворы нейкі тып, нейкі штучна сабраны тып. Пісьменьнік, што пісаў „Міжбур'е", ня ведае ён сакратара калектыву, ён мабыць у жыцьці яго ня бачыў. Ён прывык на яго глядзець, што гэта таксама начальства, а як пісаў ў свой час Шчадрын: „Начальства мае тонкі выгляд, само сябе запытвае, само адказ дае". Такія-ж прыкладна, у яго адносіны да сакратара. Нейкая няжыцьцёвая фігура ў той час, як Дыбаў выключна жыцьцёвая фігура. Праўда, Дыбаў адмоўны тып. Але ў той момант, калі ён зьяўляецца на пабудове, зьмяняецца, робіцца сухім, хадульным. Вось што асабліва кідаецца ў вочы.

Яшчэ бачыў я ў пастаноўцы, здаецца 1-га БДТ п'есу пра шкодніцтва, здаецца „Мост", таксама мне ня зусім спада-

балася. Мне здаецца, што вы крыху хворыя тым, чым хворыя нават такія пісьменьнікі, як аўтар „Страху“. Я ў Маскве бачыў гэту п‘есу ў МХАТ‘е. Адмоўныя тыпы паказаны бліскуча, а дадатныя шаравата. У прыватнасьці малюнак, дзе профэсар чытае лекцыю і пасьля яму адказвае на сходзе работніца, якая павінна ўяўляць сабою, некаторым чынам, партыйнае сумленьне, паказана, трэба сказаць, выключна бледна. На вялікі жаль і ў нас такое становішча. Нават у ігры актора адчуваецца гэта: адмоўнае паказана вельмі добра, а дадатнае—вельмі слаба. Я проста кажу, як глядач.

Якой павінна быць песьня? рамантычнай ці рэалістычнай?

Тут трэба наогул унесьці яснасьць. Мы ня супроць рэвалюцыйнай рамантыкі, ні ў якім разе! Дайце такі паказ рачаіснасьці, каб ён дапамагаў Чырвонай арміі, каб ён узьнімаў нашых чырвонаармейцаў. Дайце нам песьню пра нашыя перамогі, дзе ёсьць шмат рамантыкі, але-ж гэтая рамантыка не адарвана ад рачаіснасьці.

Я, напрыклад, надта задаволены такім радком песьні, тут таксама рамантыка ў гэтым радку:

„У Енисея врагов мы били
В широкой Висле коней поили“.

А вось у 27-й дывізіі, калі ні прыедзеш, заўсёды пачуеш як пяюць.

„Стальною грудью врагов сметая
Шла с Красным флагом 27-я“.

Рамантыка гэта? Рамантыка! Рамантыка, якая выхоўвае людзей у рэвалюцыйным духу. Чаму гэта зьяўляецца моцным, чаму яно выхоўвае—таму, што гэта сапраўднасьць, таму што гэта блізка байцам 27-й дывізіі. Мы гэтую песьню паступова перадаем і ў другія дывізіі.

Песьня „Па далінах па ўзгор‘ях“ гэта таксама рамантызм, але яе рамантызм не адарваны ад жыцьця. Тая рачаіснасьць пэрыяду грамадзянскай вайны, дзе змагаліся ня толькі з ворагамі, але і з вашама, з тыфусам, яна цікавая, яна таксама рамантычная. А вош—дужа нерамантычная рэч. Але ў пэрыяд грамадзянскай вайны ў нас быў спэцыяльны фронт барацьбы з імі.

Яшчэ адно пытаньне пра наш часопіс „Напагатове“.

Тут мне даводзіцца казаць ня проста так, а даводзіцца казаць з пункту гледжаньня кіраўніка (не часопісу), а кіраўніка паліткіраўніцтва арміі. Я маю вельмі мала водклікаў ад часьцей, мала ў часьцях адчуваецца наяўнасьць такога часопісу, а гэта павінна ўжо казаць і пра якасьць самаго часопісу. Калі часопіс ня выклікаў такога бурнага настрою, значыцца ён слабы, значыцца ў кропку ён пакуль што не патрапляе.

Пра гэта можна будзе казаць многа, пра гэта можна казаць спэцыяльна, але ня тут і ня зараз. Трэба будзе больш падрабязна вывучыць, сабраць чытачоў часопісу, пагутарыць з імі, але факт застаецца фактам, часопіс прышоў трошкі няпрыкметна для нашага чырвонаармейскага асяродзьдзя.

З пункту гледжаньня ўвагі да абароннай тэматыкі з боку пісьменьнікаў-літаратараў, паэтаў, часопіс даў некаторы эфэкт. Таварышы зацікавіліся пытаньнямі абароны, зацікавіліся ваеннымі пытаньнямі. Але ў нашых часьцях гэты часопіс яшчэ ня прывіўся так, як павінен прывіцца.

Вось што магу сказаць наконт часопісу „Напагатове."

(Гучныя воплескі).

Л. БЭНДЭ

# СЛАЎНЫ ЮБІЛЕЙ

Гераічная рабоча-сялянская Чырвоная армія прайшла слаўны свой 15-ці гадовы шлях. 15 год—гэта цэлая гістарычная эпоха, па багацьцю, па глыбіні зьместу, роўнай якой ня ведае гісторыя. Ад малых, разрозьненых тэрытарыяльна, але спаяных адзінай воляй рабочай клясы, адзіным духам ленінізму—рабочых чырвонагвардзейскіх атрадаў, да магутнай і моцнай, як тэхнікай сучаснай абароны, так і выключным палітыка-маральным сваім станам, высокай рэвалюцыйнай сьвядомасьцю.

Гэты свой шлях рабоча-сялянская Чырвоная армія, пад кіраўніцтвам Леніна і яго партыі, прайшла праз суровую і жорсткую барацьбу супроць усіх і ўсякіх, адвечных, заклятых ворагаў рабочай клясы, ворагаў працоўнага народу. Гісторыя Чырвонай арміі, гісторыя барацьбы ў час грамадзянскай вайны, гісторыя яе росту і ўмацаваньня за час „перадышкі", зьяўляецца аднэй з самых выдатных старонак гісторыі пралетарскай рэвалюцыі, гісторыі пралетарскай дыктатуры. Пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі, цэментаваная камуністычнымі сіламі „Чырвоная армія разьвівалася і расла разам з ростам пралетарскай дзяржавы" (ВАРАШЫЛАЎ)—як самая магутная, надзейная і выпрабаваная ў крывавых баёх яе зброя.

Наперакор прароцтвам сусьветнай буржуазіі і яе лёкаям—сацыял-фашыстам аб гібелі бальшавізму, аб правале пяцігодкі, наперакор спробам інтэрвэнтаў сарваць пяцігодку, наперакор шалёнаму супраціўленьню клясава-варожых элемэнтаў унутры краіны, наперакор саюзьнікам клясавага ворага контррэвалюцыйным трацкістам, правым перабежчыкам і пераражздзенцам, наперакор рознакаляровым апартуністам,—наперакор ім, разьбіваючы іх і адкідаючы іх на сьметнік гісторыі—наша партыя, узброеная марксызмам-ленінізмам, пад выпрабаваным кіраўніцтвам свайго правадыра, тав. СТАЛІНА, прывяла краіну пралетарскай дыктатуры да перамог сусьветна-гістарычнага значэньня.

Магутнай сілай гераічнай сваей арміі, адбіўшы першы вал сусьветнай капіталістычнай інтэрвэнцыі, залечваючы

раны, што нанесены вайной і інтэрвэнцыяй, за першую гераічную пяцігодку стварыла ўласную індустрыяльную базу для рэканструкцыі прамысловасьці, транспарту і сельскай гаспадаркі. Адсталая краіна, краіна дробна-сялянская, СССР ператварыўся ў краіну індустрыяльную, у краіну самай буйнай сельскай гаспадаркі, краіну, якая „высунулася ў першыя рады найбольш разьвітых у тэхніка-эканамічных адносінах краін“.

Ствараючы індустрыяльную базу для рэканструкцыі ўсей народнай гаспадаркі Савецкага саюзу, партыя павінна была пакончыць у магчыма кароткі тэрмін са слабасьцю краіны ў галіне абароны. Умовы моманту: правал ідэі разбраеньня, рост узбраеньняў у капіталістычных краінах, нянавісьць сусьветнай буржуазіі да СССР,—„усё гэта штурхала партыю на тое, каб фарсаваць справу ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны, асновы яе незалежнасьці“.

„У выніку пасьпяховага выкананьня пяцігодкі, нам удалося падняць ужо абароназдольнасьць краіны на належную вышыню“.

А „ўсё гэта прывяло да таго, што з краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны, Савецкі саюз ператварыўся ў краіну магутную, у сэнсе абароназдольнасьці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасьцяй, у краіну, здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя прылады абароны і забясьпечыць імі сваю армію, у выпадку нападу звонку“ (СТАЛІН).

Грунтуючыся на посьпехах сацыялізму ўнутры краіны, дзякуючы непамерна ўзрослай міжнароднай ролі, узрослай абароназдольнасьці СССР,—рабочая кляса дасягнула вялізных посьпехаў у справе мірнай палітыкі, якую пасьлядоўна ажыцьцяўляе пралетарская дыктатура на працягу ўсёй сваёй гісторыі. Пакты аб ненападзе, замест крывавай вайны, на сёнешні дзень устанаўленьне дыплёматычных адносін з Кітаем, зьяўляецца лепшым доказам нашых заваёў.

Мы людзі цьвярозыя, мы нyздольны захапляцца і ап‘яняцца нашымі перамогамі, пераацэньваць іх. Мы цьвяроза ўлічваем законы разьвіцьця і гібелі капіталізму, мы ўлічваем, што факты падпісаньня пактаў аб ненападзе ня здымаюць небясьпекі ўзброенага нападу капіталістаў на краіну сацыялізму. Мы ведаем, што цёмныя сілы ў капіталістычных

краінах і зараз не адмовіліся бачыць сваё збавеньне ад крызісу, ад нямінучай гібелі ў ваенным пажары, у вайне супроць краіны пралетарскай дыктатуры.

„Наша дзяржава, абкружаная варожым кальцом імпэрыялістаў, ня зможа існаваць ніводнага дня без сваёй добра ўзброенай і моцнай ва ўсіх адносінах арміі“ (ВАРАШЫЛАЎ).

Вось чаму і зараз, сьвяткуючы свой 15-ці гадовы слаўны юбілей, Чырвоная армія яшчэ з большай энэргіяй і напорыстасьцю налягае на справу баявой вучобы, на справу асваеньня баявой тэхнікі, „якую далі сваёй арміі наша партыя і наша рабочая кляса пры пераможным завяршэньні першай пяцігодкі сацыялістычнага будаўніцтва“ (ВАРАШЫЛАЎ), на справу ўзбраеньня сябе марксысцка-ленінскай тэорыяй, на справу яшчэ большага аўладаньня культурай.

Далейшае ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны сацыялізму, падвышэньне баяздольнасьці гераічнай Чырвонай арміі, наша рэвалюцыйная пільнасьць, яшчэ больш энэргічная баявая падрыхтоўка, пільнасьць сусьветнага пралетарыяту—вось што зьяўляецца сапраўднай гарантыяй ад аматараў капіталістычнай інтэрвэнцыі.

Ну, а літаратура, якая заклікана партыяй, рабочай клясай, служыць краіне сацыялізму, дапамагаць узмацненьню абароназдольнасьці, з якімі яна посьпехамі ў гэтай справе прышла да слаўнага юбілею нашай арміі?

Чырвоная армія, яе гераічнае мінулае, яе ўпартая баявая вучоба, штодзённая агромністая выхаваўчая работа, зьяўляецца самай паважанай тэмай для многіх пісьменьнікаў Савецкага саюзу, у тым ліку—савецкіх пісьменьнікаў БССР.

Мастацкая літаратура народаў СССР у сваім актыве мае сотні твораў, прысьвечаных Чырвонай арміі, твораў, што адлюстроўваюць у мастацкіх вобразах гераічнае мінулае—эпоху баёў, якія мастацкі раскрываюць сэнс і значэньне рэвалюцыйнага вопыту Чырвонай арміі,—твораў, што адлюстроўваюць пэрыяд гераічных „чырвонаармейскіх будняў“, пэрыяд „перадышкі“, ролю Чырвонай арміі ў сацыялістычным будаўніцтве, ролю яе ў сацыялістычным перавыхаваньні працоўных і г. д.

У мастацкай літаратуры знаходзіць свае адлюстраваньне наш чырвоны морскі флёт, ствараецца мастацкая літаратура аб магутнай паветранай крэпасьці краіны сацыялізму— авіяцыі.

Рад савецкіх пісьменьнікаў працуюць над мастацкім вырашэньнем праблем будучых баёў Чырвонай арміі з капіталізмам, над праблемай будучых войн і інш.

Са значнымі посьпехамі да 15-ці годзьдзя юбілею Чырвонай арміі прышоў і беларускі атрад літаратуры народаў СССР.

На працягу гісторыі беларускай савецкай літаратуры, вялікая ўвага савецкіх пісьменьнікаў аддавалася і аддаецца вайскова-абаронча́й тэматыцы. Маладая беларуская савецкая літаратура нарадзілася ў самы разгар баёў Чырвонай арміі супроць бела-палякаў, у разгар партызанскага руху. Першыя найбольш выдатныя творы беларускіх савецкіх пісьменьнікаў нарадзіліся як вынік адлюстраваньня і апяваньня героікі рабочых і сялян на франтох грамадзянскай вайны і партызанскага руху. Гэтым шляхам выходзілі ў літаратуру такія выдатныя беларускія пісьменьнікі, як М. ЧАРОТ, П. ТРУС, М. ЛЫНЬКОЎ, НЁМАНСКІ, ЛІМАНОЎСКІ і інш.

Для раду твораў гэтых пісьменьнікаў пачатковага пэрыяду характэрна рамантычнае ўспрыняцьце Чырвонай арміі і партызанскага руху, іх барацьбы супроць ворагаў працоўных мас. Рамантычнае ўспрыняцьце і адлюстраваньне партызанскага руху на Беларусі асабліва ярка выяўлена ў калектыўным рамане беларускіх лясоў „Ваўчаняты"—Александровіча, Дудара і Вольнага, у аповесьці „Два", Вольнага. Касьмічная і плянэтарная тэндэнцыі ў паказе барацьбы на франтох грамадзянскай вайны характэрны ня толькі для паэтаў „Кузьніцы": Абрадовіча, Кірылава, Александроўскага і інш., яна характэрна для вершаў М. Чарота і П. Труса і шмат іншых беларускіх паэтаў.

Наступнай характэрнай рысай паказу Чырвонай арміі і партызанскага руху на Беларусі ў творах і М. Чарота, і П. Труса, і Нёманскага, і Лынькова—зьяўляецца аднабаковае ўспрыняцьце як пралетарскай рэвалюцыі, так і грамадзянскай вайны.

Менавіта з пункту гледжаньня людзей, якія не пазбаўлены яшчэ ад дробнабуржуазных элемэнтаў у сваім сьветапогляду, рэвалюцыя імі ў большасьці ўспрыймалася, як пачатак, які ідзе ад сялянскай стыхіі. Адсюль празьмернае, а ў некаторых—выключнае высоўваньне на пярэдні плян сялянства, затушаваньне ролі рабочай клясы, затушаваньне і замазваньне арганізуючай і кіруючай ролі партыі.

Аднак, ня гледзячы на гэтыя істотныя недахопы, пра прычыны якіх гаварылася ўжо, усё-ж у творах названых пісьменьнікаў адлюстраваны некаторыя істотныя бакі нашай рэвалюцыіі, грамадзянскай вайны і арміі.

Асноўным момантам, які знайшоў сваё адлюстраваньне ў творах і Чарота, і Труса, і Лынькова, і Нёманскага, зьяўляецца тое, як рэвалюцыя, грамадзянская вайна, армія, партызанскія атрады абуджаюць мільёны людзей ад вечнай сьпячкі і як гэтыя людзі, праходзячы баявую школу жыцьця, робяцца актыўнымі, сьвядомымі ўдзельнікамі клясавай барацьбы пралетарыяту.

Некалькі асобна стаяць творы т. Ліманоўскага. Усе яго творы прысьвечаны мастацкаму адлюстраваньню эпохі грамадзянскай вайны. Ёсьць у творах т. Ліманоўскага добрыя, мастацкія, рэалістычныя моманты, асабліва, дзе ён малюе польскі палон, дзе ён малюе гэраізм і адданасьць чырвонаармейцаў. Аднак, гэтым творам у значнай меры перашкаджае любоўная рамантыка, якая пранізвае ўсе яго тры аповесьці, рамантыка рэфлектуючых інтэлігентаў зьяўляецца істотным момантам у яго творчасьці і яна сабою засьцілае, як чадам, фон грамадзянскай вайны, асобныя моманты якога ўдала „воссозданы“ т. Ліманоўскім. Яшчэ ў большай ступені парушае пэрспэктыву памылковая выдача аўтарам рэфлектуючых інтэлігентаў тыпу Карпіцкага за сапраўдных бальшавікоў, калі на справе жыцьцёвыя тыпы Карпіцкіх нічога агульнага з бальшавізмам ня мелі.

Куды горш справа з адлюстраваньнем арміі аднаўленчага пэрыяду. У беларускай мастацкай літаратуры і на сёнешні дзень няма ніводнага твору, які больш-менш поўна адлюстроўваў-бы Чырвоную армію аднаўленчага „пэрыяду. Гэты прабел беларускія савецкія пісьменьнікі павінны запоўніць.

Рэканструкцыйны пэрыяд характарны ў беларускай літаратуры інтэнсыўным ростам яе, ён характарызуецца і значным паваротам пісьменьніцкай масы да задач стварэньня абарончай літаратуры.

Абвастрэньне супярэчнасьцяй паміж сацыялістычнай і капіталістычнай сыстэмамі, непасрэдная пагроза вайны і інтэрвэнцыі супроць СССР, рост палітычнай сьвядомасьці пераважнай большасьці савецкіх пісьменьнікаў, гатоўнасьць іх абараняць краіну сацыялізму—усё гэта абумовіла больш рашучы паварот пісьменьніцкай масы да задач стварэньня абарончай літаратуры, да ўзмацненьня сваімі спэцыфічнымі сродкамі абараназдольнасьці бацькаўшчыны сусьветнага пралетарыяту.

Не малую ролю ў замацаваньні гэтага павароту, у стымуляваньні абарончай творчасьці адыграла літаратурнае аб'яднаньне Чырвонай арміі і флёту, створанае для мабілізацыі мастацкага слова на абарону краіны сацыялізму Пісьменьнікі больш блізка падышлі да Чырвонай армі пайшлі ў казарму, у лягер, на самалёт, для нарыхтоўк „сыравіны“ для сваёй творчасьці.

Паварот асноўнай масы савецкіх пісьменьнікаў тварам да задач абароны дапоўніўся сустрэчнай хваляй з нетраў Чырвонай арміі—заклікам чырвонаармейцаў-ударнікаў у літаратуру.

Усё гэта знайшло сваё канкрэтнае выяўленьне ў росьце мастацкіх твораў на абарончую тэматыку, у росьце ідэёва-палітычнай і мастацкай якасьці прадукцыі, у росьце новых кадраў абарончай літаратуры. Літаратурна-мастацкі альманах „Беллачаф“ зьяўляецца паказчыкам гэтага.

Вялікую ролю ў справе выяўленьня новых кадраў з асяродзьдзя Чырвонай арміі, у справе папулярызацы мастацкага слова адыгрывала і адыгрывае зараз газэта „Чырвонаармейская праўда“ (Смаленск). На яе старонках друкаваліся сотні вершаў, апавяданьняў і нарысаў, праз яе выявіліся дзесяткі новых творчых імён. Вялікую ролю ў гэтых адносінах адыгрываюць шматтыражкі чырвонаармейскіх часьцей і пагран-войск.

І яшчэ большую ўвагу справе стварэньня абарончай, літаратуры беларускія савецкія пісьменьнікі пачалі аддаваць пасьля гістарычных пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК

КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый і стварэньне адзінага саюзу савецкіх пісьменьнікаў з камуністычнай фракцыяй у ім.

Такія выдатныя беларускія пісьменьнікі, як М. Чарот, П. Броўка, П. Глебка, В. Каваль, Лынькоў, Кобец, Хведаровіч, Гурскі і інш., далі значныя мастацкія творы на абарончую тэматыку. Нельга не адзначыць тут творы т. Чарота, яго „Чырвонаармейскую песьню“ і яго „Сын партызана“, што зьяўляецца прамым адказам на патрабаваньні Чырвонай арміі да пісьменьнікаў. Асабліва трэба адзначыць творы т. т. Броўкі і Глебкі. Беларуская савецкая літаратура са здавальненьнем адзначае, як сваю заваёву, такія творы т. Броўкі, як „Клімэнт Яфрэмавіч“, „Праз горы і стэп“, „Уступ да паказу гэроя“ і інш. Творы т. Броўкі зьяўляюцца каштоўным укладам у мастацкую абарончую літаратуру, як творы значнай мастацкай вышыні, як творы, што мабілізуюць сілу і волю працоўных мас на справу абароны. Вершы т. Броўкі, якія ў большасьці сваёй адлюстроўваюць гэроіку грамадзянскай вайны, праз мастацкі паказ баявога мінулага, яны даюць байцам „эмоцыяльную зарадку“, мабілізуюць іх на справу павышэньня бояздольнасьці РСЧА.

Творы П. Глебкі, яго поэма „Арлянка“—выдатнае зьявішча сучаснай поэзіі і зусім незаслужана ігнаруецца крытыкай. П. Глебка, ня гледзячы на рамантычнасьць стылю, стварыў мастацкі вобраз партызанкі-Арлянкі, адлюстраваўшы праз яго вялізарнай важнасьці гістарычны факт—актыўнага ўдзелу жанчын у партызанскім руху. Разам з тым, у сваёй паэме, Глебка, першы ў беларускай літаратуры і найбольш удала разгарнуў у паэтычных вобразах ня толькі вонкавы эфэкт нашых перамог, а і ўнутраныя цяжкасьці, якія былі ўласьцівы некаторым баявым адзінкам у час грамадзянскай вайны. Шырока разгарнуў паказ партпалітапарату, як цэмэнтуючай сілы, як кіраўніка чырвонаармейскай часьці. Праўда, у поэме „Арлянка“ ёсьць свае недахопы, таксама ёсьць яны і ў творах П. Броўкі, але гэтыя недахопы такія, якія могуць быць пераможаны пісьменьнікамі пры ўмове большага знаёмства з матэрыялам, з рэальнай гісторыяй, з вучэньнем Леніна—Сталіна аб нашай арміі. Патрэбна таксама адзначыць творы т. Глебкі: „Ноч у вайскавых лягерах“ і апавяданьне „Камандзір Бялінскі“.

У сваім апавяданьні Глебка шчыльна падышоў да мастацкага адлюстраваньня важнейшай работы камандзіра Чырвонай арміі—работы па стралковай вывучцы, да паказу ўдарніка-камандзіра, да паказу ўдарнікаў-байцоў. Значную ўвагу абарончай тэматыцы ўдзяляе і паэт Хведаровіч, які выдаў ужо дзьве кніжкі вершаў („Баявыя песьні“ і „Вайна за мір“), напісаныя на вайскавую тэматыку.

Творча растуць на абарончай тэматыцы праз мастацкі паказ сучаснай арміі і флёту такія пісьменьнікі, як Васіль Каваль, Шапавалаў, Шатра, Крапачоў, Крычкін і інш.

Беларуская літаратура ўзбагачваецца і мастацкімі творамі пра імпэрыялістычную вайну, пра перарастаньне яе ў грамадзянскую. Сюды адносяцца ў першую чаргу творы Якуба Коласа, яго паэма „На шляхох волі“ і п'еса „Вайна да пераможнага канца“. Няма зараз магчымасьці адзначыць тут усю мастацкую прадукцыю на абаронную тэматыку, даць ёй адпаведную ацэнку, пералічыць усе творы і імёны, якія ствараюць абарончую літаратуру. Мы таксама застаўляем зараз без характарыстыкі вялікую колькасьць твораў чырвонаармейцаў-ударнікаў і новых пісьменьнікаў з асяродзьдзя нач. складу РСЧА, усё гэтае патрабуе досьледу.

Літаратурны рух у нашай акрузе, у БССР, узьняўся на такую ступень, калі ўзьнікла патрэба арганізацыі новага часопісу, у якім канцэнтраваліся-б лепшыя вайскова-абарончыя творы савецкіх пісьменьнікаў. Часопіс, які-б выяўляў, арганізоўваў і літаратурна выхоўваў новыя літаратурна-мастацкія кадры з асяродзьдзя чырвонаармейцаў, камандзіраў і палітработнікаў РСЧА, які-б рэалізаваў іх творчую прадукцыю, дапамагаў іх творчаму росту,—і разам з тым зьяўляўся-б вагаром у справе ўзмацненьня абароназдольнасьці Савецкага саюзу. Такім часопісам зьяўляецца часопіс „Напагатове“.

Канстатуючы ўсе гэтыя дасягненьні, мы ўсё-ж ня можам ні ў якой меры задаволіцца дасягнутым. Рад важнейшых праблем нашай сучаснасьці, праблем абароназдольнасьці СССР, праблем мастацкага паказу гістарычнай барацьбы рабочых і сялян у грамадзянскай вайне, праблем нацыянальнага пытаньня і ролі яго ў перамозе рабочых і сялян, праблем сучаснай баявой і палітычнай вучобы Чырвонай арміі, асваеньне баявой тэхнікі, волевы камандзір, рост

байца, марксысцка-ленінскае выхаваньне, сувязь арміі з сацыялістычным будаўніцтвам, інтэрнацыянальная сутнасьць Чырвонай арміі, праблема быту сям'і камандзіра, праблемы новых войн і г. д., і г. д. Усё гэта чакае яшчэ поўнакроўнага праўдзівага свайго адлюстраваньня ў мастацкай літаратуры. Трэба памятаць, што гэтыя праблемы могуць быць адлюстраваны і „воссозданы" ў нашай мастацкай літаратуры толькі тады, калі за гэтую справу возьмуцца масы чырвонаармейцаў, камандзіраў, палітработнікаў самай арміі разам з прафэсіянальнымі мастакамі слова—савецкімі пісьменьнікамі. Стварэньне баявой песьні—баявая задача савецкіх пісьменьнікаў.

У дзень слаўнага юбілею гэраічнай Чырвонай арміі— беларускія савецкія пісьменьнікі яшчэ больш прасякнуцца сьвядомасьцю неабходнасьці яшчэ большай творчай актыўнасьці ў справе стварэньня абароннай літаратуры, у справе стварэньня літаратуры, вартай нашай арміі, арміі перамагаючага сацыялізму, арміі рабочых і сялян.

Пад ленінскім кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі савецкія пісьменьнікі БССР створаць бальшавіцкую мастацкую літаратуру пра бальшавіцкую армію

БАРЫС БРАДЗЯНСКІ, ЭДГАР АРНОЛЬДЗІ

# КІНО

## АРТЫКУЛ 1-шы

### Кіно ў пэрыяд падрыхтоўкі сусьветнай вайны 1914—1918 гг.

VI кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыяналу сказаў: „Асабліва рэзка абвастрыўшаяся супярэчнасьць паміж ростам вытворчых сіл і звужанымі рынкамі робіць няўхільнай новую паласу імпэрыялістычных войн паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі, іх войн супроць СССР, нацыянальна-вызваленчых войн супроць імпэрыялізму і інтэрвэнцыі імпэрыялістаў, вялізарных клясавых баёў".

Гады, якія прайшлі з часу вынясеньня гэтай характарыстыкі, былі гадамі жорстка абвастрыўшагася крызісу капіталістычнай сыстэмы, гадамі бліскучага пацьвярджэньня гістарычнага прагнозу Камінтэрну.

Аналізуючы сытуацыю сёнешняга дня, улічваючы гістарычны вопыт, які накапіўся пасьля VI Кангрэсу, XII пленум ВККІ ў сваіх тэзісах аб міжнародным становішчы і задачах сэкцый Камуністычнага Інтэрнацыяналу, заявіў: „У сучасны момант адбываецца як раз пераход да новага туру буйных сутычак паміж клясамі і паміж дзяржавамі, да новага туру войн і рэвалюцый".

Камінтэрн канстатуе канец капіталістычнай стабілізацыі.

Што азначае гэты канец?

Вялізарны рост супярэчнасьцяй паміж імпэрыялістычнымі драпежнікамі і генэральную перагрупоўку сіл у стане імпэрыялізму...

Канчатковае крушэньне Вэрсальскай мэханікі...

Уваход у новы цыкль войн.

Канкрэтным доказам гэтага ўваходу зьяўляецца драпежніцкі захоп японскім імпэрыялізмам вялізарных тэрыторый кітайскіх правінцый, што, бязумоўна, „зьяўляецца прэлюдыяй да сусьветнай вайны імпэрыялістаў за манаполію на нявычарпных рынках каленіяльнага Ўсходу, уводзінамі да контррэвалюцыйнай вайны супроць Савецкага саюзу і Савецкага Кітаю". („Бальшавік" № 16 за 1932 г.).

Агульнавядома тое вялізарнае значэньне, якое набывае ўплыў на сьвядомасьць мас, уцягнутых у вайну, уплыў пад кутом інтарэсаў пэўнай клясы.

Такі ўплыў становіцца аднэй з істотных перадумоў вядзеньня вайскавых апэрацый. Межы ўплыву пашыраюцца па меры таго, як зьмена характару стратэгіі, вялізарны размах войн эпохі імпэрыялізму сьцірае розьніцу паміж фронтам і тылам.

З пункту погляду такога ўплыву, мастацтва наогул і найбольш гнуткае, мабільнае, найбольш тэхнічна ўзброенае мастацтва—кінематаграфія—набывае асаблівае значэньне. У адрозьненьне ад усіх відаў іншага мастацтва, гісторыя разьвіцьця кіно, якое ўзьнікла, як вядома, у канцы XIX стагодзьдзя, цалкам супадае з эпохай імпэрыялізму. Іншымі словамі, гісторыя разьвіцьця кінематаграфіі супадае з эпохай, якая поўніцца імпэрыялістычнымі, нацыянальна-вызваленчымі, каленіяльнымі і грамадзянскімі войнамі. Таму няма ніводнага вучастку сусьветнай кінематаграфіі, які-б, у тэй ці іншай форме, не датыкаўся да пытаньня аб вайне. На ўсім сваім працягу гісторыя кіно носіць асабліва яскравы адбітак выкарыстоўваньня яго клясамі, якія змагаюцца.

Пачнем з буржуазнай кінематаграфіі, як аднаго з сродкаў мілітарысцскай прапаганды.

Тэма разьбіваецца намі на тры часткі, адпаведна тром адрэзкам часу:

1 —пэрыяд, які непасрэдна папераджае сусьветную вайну 1914—1917 гг.,

2—пэрыяд сусьветнай вайны, і

3—пэрыяд пасьля сканчэньня сусьветнай вайны, інакш кажучы, пэрыяд жорсткага абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй, крызісу і надыходу другога туру войн і рэвалюцый.

Буржуазная кінематаграфія з самага пачатку свайго ўзьнікненьня зьяўляецца носьбітам мілітарысцскіх тэндэнцый.

Тут цікава прывесьці наступны прыклад: 21 красавіка 1898 году, з прычыны абвяшчэньня гішпанска-амэрыканскай вайны, фірма „Вітограф“ выпусьціла карціну „Разрыў гішпанскага сьцягу“. Прывядзем зьмест гэтай карціны поўнасьцю. У кадры лунае амэрыканскі сьцяг. Потым лунае

ішпанскі сьцяг. Да гішпанскага сьцягу працягваюцца рукі разрываюць яго на дробныя кавалкі. Усё.

Наіўнасьць гэтага шавіністычнага фільму адпавядае дзіцячаму пэрыяду разьвіцьця буржуазнай кінематаграфіі. Датай узьнікненьня кінематаграфіі наогул трэба лічыць 1896 г.

У тую-ж вайну амэрыканцамі быў выпушчаны фільм „Бойка пры Сант-Яго". Былі зьняты запаленыя макеты караблёў, хоць фільм выдаваўся за сапраўдны здымак вайсковых апэрацый. Пасьля сканчэньня вайны экзэмпляр фільму быў набыты гішпанскім вайсковым архівам у Мадрыдзе.

Адзін з самых першых фільмаў называўся „Заляцаньні салдата". Вось ужо калі зьяўляецца салдат, як пэрсанаж кінематаграфічнага твору. Выпуск фільму адносіцца, прыкладна да 1896 ці пачатку 1897 году.

Мілітарысцкія тэндэнцыі пашыраюцца на ўсю буржуазную кінематаграфію без выключэньня, зьмяняючы толькі сваю форму. І ў карцінах, якія маюць спэцыфічна вайскавы сюжэт, гэта тэндэнцыя знаходзіць толькі сваё найбольш поўнае выяўленьне.

Мілітарызм арганічны для капіталістычнай сыстэмы. Мы паспрабуем у далейшым прасачыць, як у спэцыфічнай форме ідэалёгіі ў кінематаграфіі гэта арганічнасьць мілітарызму для капіталістычнай сыстэмы знаходзіць сваё выяўленьне ў любы вонкава-„мірны" адрэзак часу.

З пачатку сусьветнай вайны мілітарысцская прапаганда наогул і мілітарысцская прапаганда сродкамі кінематографа, у прыватнасьці, зрабіла шалёны скачок.

Уся буржуазная кінематаграфія накіравана да ўзмацненьня і захаваньня клясавага панаваньня буржуазіі. Вось чаму ўся буржуазная кінематаграфія у той ці іншай форме, у канцы канцоў, становіцца зброяй мілітарызму. Падкрэсьліваем папраўку на канчатковы рахунак.

Асаблівае значэньне набывае вывучэньне канкрэтнага вопыту мілітарысцскай прапаганды ў эпоху імпэрыялістычнай вайны. Мы павінны вывучыць прапаганду сродкамі кінематаграфа ў краінах Антанты і ў краінах Аўстра-нямецкага саюзу. Разам з тым, неабходна закрануць пытаньне аб агульным разьвіцьці буржуазнай кінематаграфіі ў пэрыяд імпэрыялістычнай вайны.

Найбольшага ажыўленьня мілітарысцская прапаганда сродкамі кіно дасягае ў гады напярэдадні сусьветнай вайны.

Пры вывучэньні пэрыяду напярэдадні сусьветнай вайны. мы абавязаны вылучыць мілітарысцкую прапаганду сродкамі кіно у выглядзе цэлага шэрагу „відавых“ хронік і г.д., галоўным чынам таму, што мастацкая кінематаграфія яшчэ не дасягнула колькі-небудзь сур'ёзнага ідэйнага разьвіцьця і мова яе выяўленчых сродкаў была яшчэ бездапаможнай.

Навучальнае відовішча ўяўляе сабой кінопракат Расійскай імпэрыі ў пэрыяд напярэдадні сусьветнай вайны У гэтым пракаце акрэсьлена адлюстроўваюцца тэндэнцыі супернічаючых імпэрыялістычных саюзаў, з якіх кожны спрабуе ўцягнуць царскую Расію ў сваю арбіту пад свой уплыў.

„Нямецкая эскадра ў Балтыцскім моры“ (кастрычнік 1910 году, пракат Ханжонкава).

На экране мы бачым манэўры нямецкага флёту. „Хараство і гордасьць Нямеччыны—плавучыя крэпасьці-дрэдноўты. Радасьць і жах у адзін і той-жа час ахапляюць вас пабачыўшы гэтыя плавучыя велічы“—піша буржуазны кінематаграфічны друк таго часу.

Мэтраж гэтай „відавай“ больш чым скромны—98 мэтраў.

З другога боку ў Расіі, у той-жа час дэманструецца „Спуск на ваду заатлянтычнага крэйсэра „Францыя“ (вытворчасьць „Гомон“, 1910 г.). На 102 мэтрах плёнкі паказваецца ўрачысты спуск, рэлігійны абрад хрышчэньня судна і інш.

У гэтым-жа кірунку працуе „відавая“—„Дзень на францускім броняносцы“ (вытворчасьць Патэ, 1911 г.). Сюды-ж можна аднесьці такія кароткамэтражкі, як „Арсэнал і Карабельная майстэрня ў Трыесьце“ (пракат Ханжонкава, 1911 г.), „Практыкаваньні бэльгійскай кавалерыі“. (Патэ, 1911), аб якой паслужлівы буржуазны рэцэнзэнт піша, што карціна „ўзрушае гледача хараством.“ Да гэтага-ж цыклю трэба дадаць карціну, якая выпушчана „Гомонам“ у 1911 г. „Школа кавалерыстаў у Францыі“. Паказана вядомая кавалерыйская школа ў Сомюры, страявыя практыкаваньні, кавалерыйскія манэўры і інш.

Італьянская прадукцыя гэтага часу характарызуецца „відавай“ фірмы Чынэс—„Гарматныя заводы Армстронга“.

Ангельская—карцінай „Маладыя выведчыкі ў Ангельшчыне", якая паказвае вайскавыя заняткі бой-скаўтаў. Фільм вышаў у рускім пракаце Тымана і Рэйнгарда ў 1911 г.

Рускі імпэрыялізм замацоўваў сябе праз фільмы, прыкладна, такога парадку: „Манэўры ў Царскім сяле ў прысутнасьці гасудара-імпэратара" (вытворчасьць італьлянскай фірмы Чынэс, 1911 г.), ці „Спуск першага Рускага дрэдноўта, Палтава" (вытворчасьць „Продафільм", 1911 г.).

Характэрны фільм „Малюнкі вайны ў мірны час" ці „Пераймальная страляніна ў войсках Курскага гарнізона па сыстэме генэрала Доўгава".

Гэта пераймальная страляніна, у якой вядзецца бясьпечнымі выбуховымі знарадамі, ставіць салдат, якія ўдзельнічаюць ў манэўрах, у псыхалёгічныя ўмовы сапраўднага бою.

Па сьвядоцтву буржуазнага друку таго часу ( карціна дазволена для пракату 2-га верасьня 1910 г. Маскоўскім граданачальнікам) карціна захапляла ня толькі вайскавых: „Перад намі праходзіць цэлы рад эпізодаў баявога жыцьця атраду на вайне".

„Пераймальная страляніна" была аднэй з першых спроб прыстасаваньня кінематаграфіі ў арміі рускага імпэрыялізму для баявой падрыхтоўкі. Характэрна, што фільм быў прасунуты і ў агульны пракат.

Мы перададзім зьмест фільму па аўтэнтычных крыніцах:

„Непатрэбна ўспамінаць аб тым, як прыгожы на экране масавы рух войск і батальныя малюнкі наогул,—кожнаму наведвальніку кінематаграфа, які хоць аднойчы бачыў такі фільм гэта добра вядома.

Але карціна, што прапануецца апрача гэтых, так сказаць, агульных дадатных бакоў, мае яшчэ высокі і выключны інтарэс з прычыны таго, што „Пераймальная страляніна", зьяўляючыся навіной у нашых войсках і ставячы іх ва ўмовы сапраўднага бою, упяршыню ўвекавечана на істужцы.

„Пераймальная страляніна па сыстэме генэрала Доўгава" ў кінематаграфічным адлюстраваньні дае гледачу рад надзвычай цікавых момантаў наступальнага бою на добра вядомай войскам Курскага гарнізона роўнядзі.

Вось рухаецца паходная калёна пяхоты з артылерыяй.

Мусіць начальнікі ўжо атрымалі данясеньне з пазыцый ворага. Яны кар'ерам выяжджаюць уперад для азнаямленьня з мясцовасьцю і выбару артылерыйскай пазыцыі, і для накірунку далейшага руху атраду.

Адпаведна вызначанаму пляну дзеяньня, пяхота, разгарнуўшыся пад прыкрыцьцем артылерыйскага агню, займае насып, які прарэзвае даліну чыгункі, і, выкарыстаўшы гэтае гатовае прыкрыцьце, адчыняе па ворагу паражальны вінтовачны агонь.

Вось з далёку паказваецца цягнік, які вязе наступаючай калёне падмацаваньне і ён застанаўліваецца як раз у той частцы насыпу, за якой заляглі стралкі.

Ня гледзячы на ўзмоцнены абстрэл ворагам, салдаты хутка высаджваюцца з вагонаў, сваім прыбыцьцем даючы наступаючым магчымасьць яшчэ прасунуцца ўперад перабежкамі. Уздымаецца выведачны зьмей з пасажырам для нагляданьня з вышыні птушынага палёту за зьменамі ў разьмяшчэньні варожых пазыцый і рухам войск праціўніка.

Зразумела, зьяўленьне такога зьмея не праходзіць незаўважаным з боку ворага, які ўзмоцнена засыпае яго шрапнэлямі, якія штохвілінна рвуцца каля яго, атуляючы клубочкамі дыму і прыводзячы яго нарэшце да нягоднасьці.

Потым ідзе маладзецкая атака казакаў на батарэю і ў заключэньне мы бачым работу мэдычнага пэрсаналу на санітарным пункце, які прытуліўся каля вады, у захаваным ад куль месцы.

І тут кіпіць работа, бо такія манэўры не пазбаўлены пэўнай долі небясьпекі і нярэдка даюць некаторы процант параненьняў ці іншых пашкоджаньняў сярод манэўруючых войск."

Мы прывялі сапраўдныя вытрымкі з дадатку да № 11 часопісу „Сінема-Патэ".

Карціна вышла ў пракат 2-га лістапада 1910 году. Яе агульны мэтраж быў надзвычай невялікі—175 мэтраў, а пракатная цана—87 руб. 50 кап. Рэкляма пералічвае паасобныя эпізоды. Іх было дзевяць: паходная калёна, выведка артылерыстаў, вайскавы зьмей пад агнём ворага, пяхота пад агнём шрапнэляў, падмацаваньне на цягніку, артылерыйскі паядынак, атака казакаў на батарэю, санітарны пункт, разгляд вучэньня.

На прыкладзе гэтага фільму бачна, як баявая падрыхтоўка войск рускім імпэрыялізмам, пры дапамозе кінэматографа, выкарыстоўвалася, як повад для шавіністычнай прапаганды.

Цэнтр цяжару мілітарысцкай прапаганды сродкамі кіно, усё-ж трэба шукаць на вучастку мастацкіх фільмаў, якія зьвернуты да найбольш шырокіх колаў гледачоў.

У гэтым пляне ўсе імпэрыялістычныя драпежнікі разьвіналі вялізарную энэргію.

Так у рускай вытворчасьці у 1908 годзе вышаў фільм „Старанны дзяншчык“—камэдыя (фірма Дранкова).

У 1910 годзе „Напалеон у Расіі“ (фірма „Гомон“, рэжысэр Ганчароў).

У 1911 годзе, той-ж Ганчароў, які спэцыялізаваўся на шавіністычных фільмах, ставіць „Абарону Севастопаля“.

У 1912 годзе—разгул шавінізму, які суправаджаў стагодзьдзя ўрачыстасьці руска-францускай вайны, штурхануў фірму Ханжонкава на вытворчасьць вялікай (1300 мэтраў) карціны „1812 год“ (рэжысэры Дранкоў і Ганзэль).

У 1913 годзе рэжысэр Пратазанаў у фірме Тыман і Рэйнгард ставіць карціну „За гонар рускага сьцягу“. У гэтым-жа годзе ўжо вядомы нам рэжысэр Ганчароў выпускае фільм „Пакарэньне Каўказу“ (вытворчасьць Ханжонава, Дранкова, Талдыкіна).

Для ўяўленьня зьместу мілітарысцкай прапаганды сродкамі кіно, мы застановімся на лібрэто раду мілітарысцкіх і шавіністычных фільмаў гэтага часу.

Аднатуем у першую чаргу рад карцін, пры дапамозе якіх вялася вайскавая прапаганда краінамі Антанты і, галоўным чынам, Францыі.

„Напад на млын“ — эпізод з франка-пруская вайны, экранізацыя разьдзелу з раману Золя. (У 1910 годзе вышла ў рускім пракаце „Адлер“.)

„Жахі вайны“—вышла ў рускім пракаце Тымана і Рэйнгарда ў сьнежні 1910 г. Паказана аблога Парыжу немцамі. Сын дызэртыраваў з баявога паста, хаваецца ў лесе і займаецца марадзерствам. Бацька-француз становіцца на яго месца і гіне ў бойцы. На полі бойкі сын рабуе забітых і сутыкаецца з паміраючым бацькам. Бацька пазнае ў прадсьмяротную мінуту сына і праклінае яго.

„Героізм“ („Гомон“, 1912 г.). Францускі гусар перад бойкай ў Марэнго, накіроўваецца ў выведку і шпіянаж. З героічнымі прыгодамі прабіраецца ў тыл ворага і крадзе важныя дакуманты. Схаваўшыся ў возе сена, ён выбіраецца з варожага лягеру. Сена на возе загараецца, але герою ўдаецца ўцячы. Вайскавыя дакуманты дастаўлены, бойка пры Марэнго выйграна.

Нам не ўдалося ўстанавіць назву фільма вытворчасьці Патэ ў 1909 годзе, які дэманстраваўся ў Бельгіі з яўнай мэтай распальваньня шавінізму да немцаў.

Дзея адбываецца ў часе франка-прускай вайны 1870-71 г. У фільме выведзены шляхетны стары француз, яго палаючы патрыётызмам пляменьнік, некалькі „прусакоў“ —п‘яніц. Стары спыняе пляменьніка, калі той хоча страляць ў немцаў. Ноччу пляменьнік пракрадаецца ў лес і пераразае правады вайсковой сувязі немцаў. Яго выяўляюць і тут-жа вешаюць на месцы вайсковага злачынства, папярэдне абрабаваўшы. Потым нямецкі патруль ўрываецца ў вёску, прыходзіць да старога француза і патрабуе ад яго віна. Па гальштуку пляменьніка на адным з немцаў, стары даведваецца аб жахлівай праўдзе. Убачыўшы адсутнасьць пляменьніка—стары ідзе на пошукі і знаходзіць яго павешаным. Тады ён налівае атруту ў віно і атручвае немцаў. Іх трупы стары цягне ў лес і ставіць мерцьвякоў на калені перад павешаным.

У 1911 годзе Патэ выпушчае фільму „Сьцяг Брабанту“, дзея якой разгортваецца ў сярэднявякоўі, а сюжэт будуецца на тым, як дачка шляхетнага герцага спасае ад ворагаў сьцяг.

Тая-ж фірма выпушчае другую карціну „Абавязак імпэратара“ (Патэ, 1911 г.). У гэтай карціне Напалеон анулюе нядоімкі салдата, які спас яго жыцьцё ў бойцы і спыняе продаж яго маёмасьці з аукцыёну (з пэрыяду „Ста дзён“)

Напалеонаўскія войны былі неаднаразовым повадам шавіністычнай кінопродукцыі. Фірма Амброзіо (Італія) выпусьціла карціну „Грэнадзёр Ролянд“. Гэта легенда аб удзельніку напалеонаўскіх паходаў. Сюжэт будуецца на любоўнай колізіі, а на ходзе дзеі фільма паказана бойка ля Бярэзіны.

Другая італьянская фірма—ўжо вядомая нам, Чынэс—выпусьціла карціну „Маленькі барабаншчык“. Яе зьмест зводзіцца да таго, што маленькі барабаншчык геройскі ўдзельнічае ў бойцы пад Аўстэрліцам. Імпэратар абыходзіць яго ўзнагародай, бо ён надзвычай малы, але за храбрасьць ў бойцы пад Ваграмам, Напалеон уласнаручна ўзнагараджае маленькага героя ордэнам.

Рад фільмаў выкарыстоўваецца італьянскімі мілітарыстамі.

Да сьвяткаваньня 50-ці годзьдзя аб'яднаньня Італіі фірмай Амброзіо была выпушчана карціна „Залатое вясельле“, якая была ўзнагароджана прызам 25.000 лір.

Герой карціны—стары гарыбальдыец сьвяткуе залатое вясельле. Атулены дзецьмі і ўнукамі, ён расказвае аб сваім шлюбе ў часе вызваленчай вайны. Перад гледачом праходзіць эпізод бойкі пры Палестро. Дзяўчына-сялянка спасае раненага героя і памагае яму пасьпяхова выканаць ўскладзеную на яго вайскавую задачу.

У гэтым-жа агітацыйным пляне зроблена карціна „Помства за сына“, якая выйшла ў Расіі ў пракаце Тымана і Рэйнгарда ў 1911 г.

Яе сюжэт будуецца на тым, што войскі Жака Совельлі абляглі Флёрэнцыю Флёрэнтыец Раўль, у часе вылазкі з абложанага гораду г абіраецца ў палатку Совельлі і забівае яго сына. Але ў бойцы ўзяты брат Раўля—Бэндо. Совельлі помсьціць за сына, ён патрабуе за выкуп Бэндо тысячу залатых і атрымаўшы іх—забівае яго. У сваю чаргу. Совельлі помсьціць за вераломства і выходзіць пераможцам.

Вайсковы шпіянаж надзвычай рана становіцца ўлюбёнай тэмай для пабудовы захапляючага сюжэту кінематаграфічнага твору і праслаўляецца, як „патрыятычны ўчынак“.

Прыкладам фільму такога тыпу можа быць карціна „Аўтамабіль 233—В“, якая вышла ў пракаце Тымана і Рэйнгарда ў 1911 годзе.

Францускі шпіён завязаў раман з дачкой бэльгійскага інжынэра-вынаходцы стрэльбы новай сыстэмы. Шпіён скрадае чарцяжы. Але гэтае злачынства заўважыла малодшая дачка. Яна робіць дзіркі ў баку аўтамабіля шпіёна і па бэнзынавым сьлядам яго даганяюць і арыштоўваюць.

Амэрыканская карціна „Гераізм шпіёнкі“—вытворчасьць 1910—11 г г.—разгортвае сваю дзею на фоне вайны Поўначы з Поўднем. Шпіёнка конфэдэратаў удала падслухоўвае вайсковыя тайны ворагаў і з надзвычайнымі прыгодамі дастаўляе весткі генэралу Джэксону.

У цэлым радзе фільмаў падкрэсьліваецца роля быту, роля сям'і ва ўзмацненьні патрыётычных пачуцьцяў.

Амэрыканская фірма „Біограф“, у 1909—10 гг., выпушчае фільм „Дом з зачыненымі акеніцамі“—эпізод з амэрыканскай грамадзянскай вайны. Герой карціны—сын шляхетных бацькоў, але баязьлівец і п'яніца, ня выканаў даручэньня штаба конфэдэратаў (генэрала Лі). Ахоплены страхам—ён дээзэртырує. Аб гэтым дазнаецца яго сястра. Яна пераапранаецца ў форму, выконвае даручэньне генэрала Лі., удзельнічае ў бойцы, праяўляючы ў ёй надзвычайнае геройства. У бойцы яна гіне. Усе мяркуюць, што герой загінуў за бацькаўшчыну. Каб скрыць пляму ганьбы, юнак праводзіць жыцьцё за зачыненымі вакеніцамі, імітуючы звар'яцеўшую сястру.

Карціна 1911 г. „Каханьне і сьмеласьць“ вышла ў працы Тымана і Рэйнгарда. Дзяўчына хістаецца—каму з двух прэтэндэнтаў аддаць сваю руку і сэрца. Адзін пакрывае сябе славай на вайне, другі—баязьлівец, які паганіць сьцяг бацькаўшчыны. Дзяўчына з ганьбай адкідае труса і выходзіць замуж за героя.

У крыху іншым разрэзе пастаўлена карціна „Добраахвотнік“. (1911 г. Патэ).

Малады селянін паступае добраахвотнікам, каб атрымаць за вайсковую службу грошы, якія яму неабходны для хворай маткі. Маці памірае. Пад уплывам гэтай весткі, добраахвотнік дээзэртырує. Пагоня. Добраахвотніка знаходзяць дома ў той момант, калі яго маці памерла. Узрушаны каханьнем сына, камандзір даруе яму дээзэртырства.

Карціна „На манэўрах“ (Ханжонкаў, 1911 г. пракат).

Лейтэнант заляцаецца да маладой салдаткі. Салдат зьбівае афіцэра. Яму пагражае суровая кара. Стары бацька, апрануўшы ўсе свае ордэны, ідзе да генэрала і дабіваецца справядлівасьці. Салдата вызваляюць, а лейтэнанта арыштоўваюць.

У двух апошніх карцінах праводзіцца ідэйка: пры ўсёй суровасьці вайсковай дысцыпліны ў буржуазнай арміі магчымы выключэньні і зьмягчэньні ў імя панаваньня маралі.

Мы далёкі ад думкі, быццам-бы, намі прыведзены увесь кінематаграфічны матэрыял, які характарызуе вывучаемы пэрыяд. Мы не застанаўліваемся, прыкладна, на такіх карцінах, як „Вязень сьвятой Гелены“ (вытворчасьць Чынэс, Італія, 1910 г.), у якой паказаны Напалеон пры сьмерці. Перад паміраючым імпэратарам праходзяць малюнкі гэроічнага мінулага, боек, перамог і г. д. Але мы мяркуем, што і прыведзенага матэрыялу дастаткова для раду падсумаваньняў.

1) У пэрыяд напярэдадні сусьветнай вайны буржуазная кінематаграфія ахвотна зварачаецца да вайсковай тэматыкі. Сюжэты карцін часта будуюцца на гістарычным мінулым (руска-француская вайна 1812 году, грамадзянская вайна ў ПАЗШ, франка-пруская вайна 1870—1 гг. і г. д.). Кожны раз тэматыка зьяўляецца чыста вонкавым повадам для, у большасьці выпадкаў, надзвычай прымітыўнай, але разам з тым груба цікавай сюжэтнай пабудовы рэчы.

Палітычная мэтаімкненасьць усіх гэтых фільмаў заўжды адна і тая-ж: усімі магчымымі сродкамі фільмы раздуваюць шавіністычныя настроі гледача, сыстэматычна і ўпарта ўдаўбліваючы ў яго сьвядомасьць ідэі „героізму“, „самаафярнасьці“ ў імя інтарэсаў бацькаўшчыны, вайскавой мужнасьці і г. д.

2) У большасьці карцін падкрэсьліваецца ідэя індывідуальнага вялікага ўчынку, асабовага геразіму, які вырашае лёс вайскавых апэрацый. Маса адсутнічае, зьяўляючыся толькі далёкім фонам, а ня ў фокусе.

3) Цэлы рад карцін узмоцнена падкрэсьлівае значэньне сямейна-бытавых сувязяй з пункту погляду абароны бацькаўшчыны (маладая аддае перавагу герою, бацька помсьціць за сына, сястра гераічна „выкупляе“ ганьбу сям'і, брат помсьціць за брата і г. д.). Усе гэтыя фільмы са значнай упартасьцю падкрэсьліваюць, што буржуазная сямейная ячэйка зьяўляецца аднэй з апор мілітарызму.

4) Найбольш важная акалічнасьць—тлумачэньне сэнсу вайны. На гэтае пытаньне большасьць фільмаў адказвае ці маўчаньнем, ці туманнымі агульнымі спасылкамі на неаб-

ходнасьць „абароны бацькаўшчыны“ ад абавязкова крыважэрнага ворага, які руйнуе культурныя каштоўнасьці і г. д. Хоць акцэнт на адмоўных якасьцях ворага робіцца параўнальна рэдка, асабліва калі шукаць аналёгіі ў фільмах, вытворчасьць якіх супадае непасрэдна з пэрыядам сусьветнай вайны 1914—1917 гг.

Нават тады, калі фільм, як напрыклад „Залатое вясельле“, мае справу з зусім канкрэтнай вайной, сапраўдны яе гістарычны сэнс старанна затушоўваецца і лоўка апушчаецца аўтарамі твору.

5) Фармальна нявысокі ўзровень вобразнай сыстэмы ўсіх прыведзеных карцін у значнай ступені тлумачыцца агульным нявысокім ідэйна-мастацкім разьвіцьцём буржуазнай кінематаграфіі.

Апрача таго, ва ўсіх выпадках вобразная сыстэма прыносіцца ў афяру непасрэдна шавіністычнаму зьместу карцін.

У параўнаньні з усімі відамі прадукцыі, мілітарыстычныя і шавіністычныя карціны з асаблівай адчыненасьцю і непрыхаванасьцю спэкулююць на найбольш адсталых інстынктах аўдыторыі.

Мы зьвернемся яшчэ да параўнальнай характарыстыкі рысаў кінематаграфічных твораў дадзенага пэрыяду пасьля вывучэньня кінематаграфіі пэрыяду сусьветнай вайны.

У заключэньне аднатуем, што ўжо ў пэрыяд напярэдадні сусьветнай вайны кіновытворчасьць усіх імпэрыялістычных драпежнікаў (Расія, ПАЗШ, Італія, Францыя і г.д.) праяўляла высокую актыўнасьць. З гэтага пункту погляду рост шавіністычнай мілітарысцкай кіно-прадукцыі ў значнай ступені сымптоматычны.

Н. КАБАКОЎ

# На паверхні

**(Пра кнігу Н. Вайнгаўза—„На варце“, нарысы з жыцьця Чырвонай арміі на яўрэйскай мове. Менск, ДзВБ 1932 г.).**

Усё ў парадку, усе прыходзяць нам на дапамогу:
Саюз і партячэйка („На варце“, стар. 6).
Усё ў парадку (Там-жа, стар. 32).

Проблемы ўмацаваньня абараназдольнасьці нашай краіны і баяздольнасьці Чырвонай арміі павінны займаць віднае месца ў творчасьці нашых савецкіх пісьменьнікаў. Чырвоная армія і Чырвоны флёт заслужылі, каб іх геройства, іх барацьба на франтох знайшлі свой адбітак у мастацкіх творах. Чырвоная армія гэтага вымагае і яна мае на гэта поўнае права

За апошні час мы маем пэўны паварот яўрэйскай савецкай літаратуры. тварам да тэматыкі Чырвонай арміі і грамадзянскай вайны. Яўрэйскія паэты і пісьменьнікі Аксэльрод, Талалай, Верамікін, Еляшкевіч, Каган і іншыя далі на працягу апошняга часу рад вершаў, апавяданьняў з жыцьця Чырвонай арміі. Я ўжо не гавару аб такім манумэнтальным творы аб імпэрыялістычнай вайне, як кніга Брэгмана „Праз вайну і рэвалюцыю“.

Н. Вайнгаўз—адзін з першых яўрэйскіх пісьменьнікаў, якія пачалі асьвятляць у яўрэйскай літаратуры жыцьцё Чырвонай арміі. Яшчэ будучы на вайсковай службе, Вайнгаўз пасылаў свае карэспандэнцыі з жыцьця Чырвонай арміі ў газэты „Акцябр“, „Эмэс“, „Юнгер Арбайтэр“, а цяпер вышла яго кніга „На варце“—нарысы з жыцьця Чырвонай арміі. Гэта кніга носіць на сабе пячатку чырвонаармейскіх блёкнотных зарысовак. Гэтую кнігу лепш было-б назваць „з блёк-нотам у руцэ“, калі-б у ёй ня было спэцыяльнага разьдзелу „На традыцыях вэтэранаў“, у якім маюцца тры эпізоды з гісторыі грамадзянскай вайны. Вайнгаўз значыць, хацеў у пляне асьвятленьня жыцьця Чырвонай арміі даць эпізоды з грамадзянскай вайны. Гэта, бязумоўна, добра, калі-б толькі...

Вайнгаўз меў вельмі добры намер паказаць нам жыцьцё Чырвонай арміі, паказаць як Чырвоная армія выхоўвае бедняка, серадняка, як яна ўдзельнічае ў сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі і г. .д

Але якімі мастацкімі сродкамі Вайнгаўз даў нам гэта?

Ня гледзячы на ўсе яго суб'ектыўныя добрыя намеры, Вайнгаўз усё-ж не паказаў нам цяперашняга этапу разьвіцьця Чырвонай арміі, ня даў нам мастацкага адлюстраваньня гераічнасьці яе. У Вайнгаўза атрымоўваецца схэма, бо ён пайшоў па шляху фіксацыі фактаў. Ва ўсёй кнізе вы ня маеце ніводнага закончанага тыпу чырвонаармейца.

Вось, напрыклад, як Вайнгаўз малюе прызыўнікоў:

„Сёньня ноччу ў нас адбыўся сход, на якім мы абралі тройку. Наш абавязак—весьці працу сярод прызыўнікоў усяго саюзу будаўнікоў.

Яша ўнёс прапанову выпусьціць насьценгазэту „Прызыўнік“.

Усё ў парадку, усе прыходзяць нам насустрач: саюз і партыйная ячэйка.

Камсамольскі калектыў саюзу ўзяў над намі шэфства: ня піць, не паўтараць прадзелак старых рэкрутаў-прызыўнікоў старацца каб прызыў прайшоў як найлепш.

— Вось, чудакі, сярчаў С. Яўхімчык з духавога аркестру,— ня піць, мы і бяз іх гэта ведаем, мы-ж ня „чуждыя элемэнты“ (стар. 6).

Вайнгаўз не паказвае, а апавядае, гаворыць, усё ў яго выходзіць неяк так гладка, усё ў яго так цудоўна, што проста дзіву даешся.

А ўжо на старонцы 8 ён зноў апавядае: „Як толькі народ пачуў слова „кулак“, дык шум яшчэ большы стаў. Сапожнікаў усіх заспакойваў, ён фактамі палажыў КУЛАЧКА на абедзьве лапаткі“. А вось якім чынам, якімі фактамі „гэтага кулачка“ палажылі на абедзьве лапаткі— аб гэтым нічога няма.

*Характэрна* як другі яўрэйскі пісьменьнік Г. Ліпман апісвае ў сваіх чырвонаармейскіх зарысоўках „На Манчжурскім фронце“ кулацкае выступленьне і якімі сродкамі далі адпор гэтаму выступленьню.

„Зараз у вёсцы ўсё забіраюць,—растлумачвае зажытачнік Чарткоў.

— Адкуль ты гэта ведаеш?

— Сваяк піса .

— А што ў твайго сваяка забралі?

— Млын.

— Да, вельмі шкада яго,—сьмяюцца хлапцы“.

У гэтай карціне аўтар пераконвае нас, што Чарткова сапраўды палажылі на абедзьве лапаткі.

Наогул у Вайнгаўза шм беспрадметнага захапленьня, таму ў яго сустракаюцца такія выклікі: „Эх, і была-ж гэта карціна“ (ст. 9). Або— „Васька такую прамову адляпаў, што сьцены дрыжэлі“ (ст. 10). „Ня іду мне здаецца што я лётаю (ст. 12).

Мэтафоры, параўнаньні, эпітэты ў Вайнгаўза вельмі трафарэтныя „горад быў ўкрашан, хата, вуліцы, людзі—на ўсіх новая скура“ (стар. 17)

Зусім няўдалымі ў Вайнгаўза зьяўляюцца малюнкі прыроды (стар. 37, 41)

Эпізоды грамадзянскай вайны, якія ёсьць у разьдзеле „На традыцыях, вэтэранаў“, напісаны як кажуць, „з трэціх рук“ на падставе таго, што той ці іншы герой апавядаў, гаварыў, але яны мастацкі не падагрэты, яны вельмі падобны на пратаколы. Мова вельмі бедная, без фарбы. Героі эпізодаў паказваюцца не ў іх дзеяньнях, але яны самі аб сабе гавораць, аб сабе апавядаюць:

„АПАВЯДАЙЦЕ мне нешта аб вашай службе,—прашу я яго,—*АПАВЯДАЙЦЕ*, як вы і яшчэ сотні тысяч змагаліся за справу рабочае клясы“.

А ў другім месцы:

„АПАВЯДАЙЦЕ,—спрабаваў я яму напомніць“.

І яшчэ:

„Дык паслухай, хлапец, што я табе раскажу“.

У другім эпізодзе „Пад гэтым штандарам нас ніхто не пераможа“ зноў гаворыцца: „таварыш Ізмакоў,—былы камандзір батальёна, атрымаў

не адну рану за час грамадзянскай вайны, ён пераржыў шмат геройскіх эпізодаў, ён многа чаго можа апавядаць"...

І трэці эпізод:

„Памятаю, быццам гэта сёньня было,—АПАВЯДАЕ памочнік камандзіра нашага кав. палка".

Эпізоды з грамадзянскай вайны маюць многа цікавага, фактычнага матэрыялу, але гэты матэрыял мастацкі не апрацаваны.

* * *

Вайнгаўз імкнуўся паказаць, як Чырвоная армія перарабляе чалавека, робіць яго сьвядомым. ліквідуе няпісьменнасьць, рыхтуе актыўных і сьвядомых працаўнікоў сацыялістычнага будаўніцтва. Адзіны тып, які Вайнгаўз спрабаваў паказаць нам з пачатку прызыву да ўходу яго ў Чырвоную армію, гэта МІШКА, які нават стаў кандыдатам партыі. Але мы гэтага Мішку ня бачым у яго дзеяньнях, у яго практыцы. Мы бачым толькі ліст, які Мішка напісаў дадому. Але якраз гэты ліст не зьяўляецца характэрным для Мішкі, які толькі што ліквідаваў сваю няпісьменнасьць.

У гэтым лісьце столькі прыгожых фраз, якіх Мішка ні ў якім выпадку ня мог напісаць.

У чым асноўны недахоп? У тым, што Вайнгаўз нам не паказаў новай сацыялістычнай якасьці Мішкі.

Вайнгаўз правільна малюе, як Мішка ліквідуе сваю няпісьменнасьць.

„Мішка сёньня на занятках напісаў тры словы на чорнай дошцы ігатоў быў ад радасьці ўсіх расцалаваць.

„Буденный наш братишка"—вось гэтыя тры словы".

Моцнае ўражаньне таксама атрымоўваецца ад апісаньня таго, як чырвонаармейцы змагаюцца за чысьціню, за культуру.

Вельмі характэрным для таго, каб паказаць наколькі Вайнгаўз ня змог улавіць тое тыповае, новае, што мы маем сярод нашых чырвонаармейцаў, зьяўляецца наступнае:

У ленінскім кутку чырвонай казармы ідзе гутарка з чырвонаармейцам аб унутранай і міжнароднай палітыцы. Здаецца, што гэта вельмі сур'ёзная справа і таленавіты пісьменьнік-бальшавік змог-бы найсьці ў гэтым вельмі цікавы матэрыял.

Што-ж убачыў Вайнгаўз? Паслухайце толькі:

„...Сакратар партыйнай ячэйкі кіруе сёньня гутаркай. Тарасэвіч з Беларусі ставіць сур'ёзнае пытаньне:

— Тав. сакратар, вы тут гаварылі аб Чэмбэрлене, што ён зьяўляецца цьвёрдалобым дык скажыце мне, чаму гэта так, і якая маці яго радзіла":

Чырвонаармейцы сьмяюцца. Тарасэвіч абражаны, дуецца і дэманстрацыйна пакідае Ленінскі куток".

Няўжо гэтым характэрна гутарка ў Чырвонай арміі? Няўжо гэта азначае асьвятленьне жыцьця Чырвонай арміі? Гэта-ж анэкдот, глупы анэкдот.

І яшчэ. Палітзаняткі ў Чырвонай арміі—гэта абавязковыя заняткі і пакідаць іх ды яшчэ „дэманстрацыйна" як гэта рабіў беларус Тарасэ-

віч (навошта Вайнгаўзу патрэбна было даць якраз такога беларуса?) азначае парушэньне чырвонаармейскай дысцыпліны, а па Вайнгаўзу выходзіць, што хто хоча, той і ўходзіць беспакарана з палітзаняткаў. Гэта гаворыць, што Вайнгаўз не зразумеў сутнасьці дысцыпліны ў рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

* * *

Вайнгаўз мабілізаваў сябе на працу на вельмі адказным вучастку на вучастку абарончай літаратуры. Гэта патрабуе вялікай паглыбленай працы над тэмай, гэта патрабуе сур'ёзна вывучаць Чырвоную армію.

Для таго, каб даць поўнакроўны мастацкі твор аб жыцьці Чырвонай арміі, пісьменьнік павінен стаяць на вышыні тых ідэй пралетарыяту і бальшавіцкай партыі, якія стварылі Чырвоную армію.

Вайнгаўз адзін з першых яўрэйскіх пісьменьнікаў Беларусі, якія ўзяліся за мастацкае адлюстраваньне геройства Чырвонай арміі. Ня гледзячы на ўсе недахопы яго першых крокаў, ён можа і бязумоўна дасьць творы большай мастацкай значнасьці і праўдзівасьці.

# ХРОНІКА

Пры Аргкамітэце ССПБ створана камісія абарончай мастацкай літаратуры, ў складзе: Бэндэ (старшыня), Клімковіч, Крапачоў, Шапіра, Шапавалаў, Самахвалаў, Аксэльрод, В. Каваль, Я. Колас, М. Чарот.

23-га лютага ў доме Пісьменьніка адбылася гутарка члена РВС БВА т. Аранштама з беларускімі пісьменьнікамі пра абарончую тэматыку, стварэньне вайсковай песьні.

Тав. Аранштам прад'явіў ад імя Чырвонай арміі пісьменьнікам БССР сацыялістычны рахунак на напісаньне твораў пра Чырвоную армію.

З 24-га па 28 лютага адбыўся першы пашыраны пленум Аргкамітэту ССПБ. На парадку дня стаялі тры асноўныя пытаньні:

1. Сучаснае становішча беларускай савецкай літаратуры і задачы ССПБ—дакл. Клімковіч.

2. Творчыя пытаньні—дакл. Лімаmaking Ліманоўскі, Браншгэйн.

3. Даклад кіно-фабрыкі „Савецкая Беларусь"—дакл. Кацнэльсон.

Пленум унёс вялікае ажыўленьне ў літаратурны рух Беларусі, а так сама паставіў рад задач перад далейшым разьвіцьцём беларускай літаратуры.

У склад аргкамітэту ССПБ пастановай пленуму Аргкамітэту ўведзены наступныя таварышы: Янка Купала (народны паэт рэспублікі), Браншгэйн, Ляўкоў, Крапачоў (нач. падыў Чангарскай дывізіі), Я. Колас (народны паэт рэспублікі).

Камісія абарончай мастацкай літаратуры ў бліжэйшыя часы арганізоўвае сэмінар для пісьменьнікаў і асьпірантаў ЛІМ БАН з наступнай праграмай:

а) вывучэньне Маркса—Леніна—Сталіна—матэрыялы аб вайне і арміі (Лектар Галякоў);

б) фулероўшчына (лектар Мэезіт);

в) праблема паветраных дэсантаў (лектар Новікаў);

г) сучасная апэрацыя (лектар Паганяйла);

д) коньніца (лектар Крапачоў);

е) вайсковы друк (лектар Самахвалаў).

# КНІЖНЫЯ НАВІНКІ

У выданьні ДВБ гэтымі днямі вышла кніга поэзіі М. Хведаровіча „Вайна вайне", Кніга прысьвечана абарончай тэматыцы.

У Дзяржаўным Ваенным Выдавецтве Беларусі за 1933 год вышлі наступныя кнігі:

Кляўзэвіц—„Аб вайне", т. І, на беларускай мове.

Харытонаў—„Рабочая кніга для палітзаняткаў"—падручнік.

Бабуноў—„Гудуць маторы"—нарысы аб авіяцыі.

Ав. Верычаў—„Хімічны напад і абарона"—падручнік.

Арцэза—„Ваенная справа".

Сіманоўскі—„Служба назіраньня".

Верычаў—„Процігаз БН".

Інцяпін—„Бой станкавага кулямёта".

